Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 33 (4782) 22 жніўня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Да Дня беларускага пісьменства ў Заслаўі распрацаваны новы турыстычны маршрут, які ахоплівае ўсе выдатныя мясціны горада, у тым ліку Спаса-Праабражэнскі храм, гарадскі вал, гістарычную частку.

✔ XVII Міжнародны фестываль анімацыйных фільмаў «Анімаёўка — 2014» адбудзецца ў Магілёве 16 — 22 верасня. Паводле рашэння экспертнай камісіі, у конкурсную праграму ўвайшло 85 кінастужак з 28 краін свету. Беларусь прадставіла дзесяць работ, у тым ліку сем фільмаў, створаных на Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм».

✔ Мастацкі музей Літвы па замове Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» адрэстаўрыраваў самы каштоўны габелен нашай краіны «Трыумф Цэзара», узрост якога — больш як чатыры стагоддзі. Рэліквія зойме годнае месца ў Тэатральнай зале Нясвіжскага замка.

✔ Дзясяты раз у Беларусі пройдзе міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлевізійных праграм Magnificat, падчас якога будзе прадстаўлена 43 кінастужкі з 16 краін свету. Паказы адбудуцца ў Мінску і Глыбокім.

✔ Работы Ю. Пэна з фондаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея ўпершыню экспануюцца на радзіме мастака ў літоўскім горадзе Зарасай. У экспазіцыі прадстаўлена 27 маляўнічых твораў: пейзажы з відамі Зарасая і Віцебска, партрэты, жанравыя карціны. Выстаўка праводзіцца ў межах праекта, які аб'ядноўвае Літву, Латвію і Беларусь.

✔ Фестываль «Аўгустоўскі канал у культуры трох народаў» сёлета ўпершыню адбудзецца ў дзвюх краінах — Беларусі і Польшчы. У Беларусі фестываль народнай творчасці пройдзе заўтра ў раёне шлюза Дамброўка, дзе на Аўгустоўскім канале сустрэнуцца выканаўцы і калектывы мастацкай самадзейнасці беларускіх, польскіх і літоўскіх нацыянальных аб'яднанняў Гродзеншчыны.

✔ У Зэльве (Гродзенская вобласць) заўтра пачынаецца знакаміты «Ганненскі кірмаш». У праграме свята — шматлікія конкурсы, выстаўкі, канцэрты, шоу. Арганізатары імкнуцца надаць фэсту гістарычны каларыт гандлёва-забаўляльнага мерапрыемства XVIII стагоддзя.

✔ У аўторак у Віцебскім абласным музеі Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова адкрыецца выстаўка «Пяро. Сшытак. Падручнік», прымеркаваная да пачатку новага вучэбнага года. Большасць экспанатаў — падручнікі, вучэбныя дапаможнікі і кнігі канца XIX — пачатку XX ст.

✔ Камерата Каралеўскага аркестра Канцэртгебау Амстэрдам выступіць 4 кастрычніка на IX Міжнародным фестывалі Юрыя Башмета. Галоўны сімфанічны аркестр Нідэрландаў, заснаваны ў 1888 годзе, — адзін з найстарэйшых у свеце. Менавіта гэты легендарны калектыў першы ў рэйтынгу топ-20, які штогод складае рэспектабельны музычны часопіс Grammophone.

✔ Абласное свята мастацтваў «Палескія сустрэчы» 13 верасня зноў збірае сяброў. Мяркуецца, што ў Любань прыедзе каля тысячы гасцей. Камерныя калектывы Нацыянальнага акадэмічнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Міхаіла Фінберга падрыхтавалі канцэрт беларускай класічнай музыкі «Любанскія мары Станіслава Манюшкі», прысвечаны 195-годдзю кампазітара. У межах свята лаўрэатам міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў будуць уручаны пасведчанні спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.



*Вячаслаў Ражкоў «Кветкі на белым абрусе», 1970.*

*У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ў межах праекта «Нашы калекцыі» экспануецца другая частка выстаўкі «Плынь часу», дзе прадстаўлены дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, жывапіс і скульптура мастакоў-юбіляраў 2014 года.*



















*За падзеяй*

# Ваенны шлях Купалы



Вячаслаў Бандарэнка.



Фота Алены Галоўчыц

Барыс Цітовіч.

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае наведаць выстаўку «Я — шлях, якому век няма спакою…», прысвечаную жыццю і творчасці паэта ў гады Першай сусветнай вайны.**

Назва выстаўкі — радок з верша Я. Купалы «Па шляху» з цыкла «Песні вайны» (1914) — мае не толькі сімвалічнае значэнне, але і рэальны падтэкст: у час Першай сусветнай вайны паэту давялося нямала «падарожнічаць» (сярод найбольш значных «пунктаў прыпынку» — Вільня, Масква, Арол, Мінск, Полацк, Смаленск, Курск).

Што можна ўбачыць на выстаўцы? Па-першае, аўтографы перакладаў твораў Янкі Купалы на рускую мову, зробленыя Валерыем Брусавым у Вільні. Па-другое, сляпыя нумары «Нашай Нівы» з белымі плямамі — сведчаннем барацьбы, якую вяла з імперскай цэнзурай газета (рэдактарам яе на той час быў Я. Купала).

Трэцяе — матэрыялы з прыватных архіваў доктара, грамадскага дзеяча і мецэната С. К. Жывапісцава і Паўліны Мядзёлкі, якія ілюструюць полацкія і мінскія сустрэчы Янкі Купалы.

Звесткі пра ваенную службу паэта ў дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін змяшчае ўнікальны фотаальбом 1914 — 1918 гадоў швагра Я. Купалы Вікенція Станкевіча. Альбом экспануецца ўпершыню.

Таксама вы знойдзеце матэрыялы пра сяброўства паэта з братамі Максімам і Гаўрылам Гарэцкім, пра наведванне ім у якасці слухача Смаленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута, што, дарэчы, спрыяла пачатку работы над перакладам «Слова аб палку Ігаравым» на беларускую мову.

Гасцямі ўрачыстага адкрыцця, якое адбылося 15 жніўня, сталі журналіст, кінасцэнарыст, гісторык, аўтар кніг, прысвечаных падзеям Першай сусветнай, Вячаслаў Бандарэнка і заснавальнік дабрачыннага культурна-гістарычнага фонду «Крокі», мастак Барыс Цітовіч.

Першым узяў слова спадар Вячаслаў:

— Янка Купала не быў непасрэдным удзельнікам баявых дзеянняў. Сёння за гэта мы мусім быць удзячнымі лёсу. Вельмі верагодна, што калі б склалася інакш, мы не пабачылі б многіх рэчаў, створаных Янкам Купалам пасля вайны. Цяпер мы ведаем яго не толькі як цудоўнага лірыка і майстра драмы, у чым ён сцвердзіўся яшчэ да Першай сусветнай вайны, — але і як чалавека, якога сфарміравала вялікая вайна. Янка Купала бачыў на ўласныя вочы бамбёжку мірных гарадоў, першыя спаленыя вёскі, магілы бежанцаў. Усё гэта пазней вылілася ў паэтычныя радкі і публіцыстыку. І сімвалічна, што адзін з самых пранізлівых сваіх вершаў Янка Купала піша роўна праз тыдзень пасля скачэння вайны — 19 лістапада 1918 года.

Мастак, прызнаны майстар кніжнай графікі Барыс Цітовіч прыехаў на адкрыццё выстаўкі з вёскі Заброддзе Вілейскага раёна, дзе жыве вось ужо 40 гадоў. Дзякуючы яму ў вёсцы з'явілася капліца-помнік у гонар салдат, якія загінулі ў Першую сусветную вайну: так мастак скарыстаў атрыманую ў 2004 годзе прэзідэнцкую прэмію «За духоўнае адраджэнне». Сёння ў Заброддзі — адзіны ў Беларусі музей Першай сусветнай вайны.

— Першы твор Купалы, які трапіў у мае рукі для ілюстравання, — гэта паэма «Адплата кахання», — узгадвае мастак. — Я быў вельмі ўражаны. І сёння хачу падараваць музею кніжку, якая з'яўляецца ўжо бібліяграфічнай рэдкасцю: у 1982 годзе давялося рабіць ілюстрацыі да твораў Янкі Купалы для малдаўскага выдавецтва; у мяне не засталося арыгіналаў ілюстрацый, і кніга маецца толькі ў адным асобніку, але я лічу, што яна павінна захоўвацца ў музеі.

Барыс Цітовіч прадставіў публіцы карціну, прысвечаную мастаку Уладзіславу Стрымінскаму. Пад Валожынам, у адным з першых баёў вайны, ён сваім целам накрыў гранату, няўмела кінутую іншым байцом. Мастак згубіў часткова левую руку і нагу, вока. Яго выхадзіла сястра міласэрнасці Кацярына Коба. Маючы яшчэ даваенныя кантакты з мастакамі-авангардыстамі, яна вярнула Уладзіслава ў мастацтва. Барыс Цітовіч спалучыў у карціне свет мастака — яркі і поўны радасці жыцця — і ваенную рэальнасць, шэрую, змрочную. Пры гэтым Барыс Барысавіч уличыў і тое, што Уладзіслаў Стрымінскі — заснавальнік унізму — плыні мастацтва, у якой дазваляецца прымяненне розных відаў матэрыялаў. Так, ніжняя частка карціны Б. Цітовіча абнесена калючым дротам часоў Першай сусветнай вайны, а па вопратцы сястры міласэрнасці раскіданыя маленькія металічныя квадраты — сапраўдныя аскепкі гранаты тых часоў.

У рамках адкрыцця выстаўкі прагучала паэтычна-музычная праграма ў выкананні Валянціны Цітовіч, а таксама была прачытаная міні-лекцыя па новай часовай экспазіцыі.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Свайму рэдактару

**Мемарыяльная дошка ў памяць пісьменніка Аляксея Каўко адкрыта ў горадзе Іванава на будынку рэдакцыі райгазеты «Чырвоная звязда». Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, ганаровы грамадзянін Іванава і Іванаўскага раёна заснаваў «раёнку» ў 1965-м, быў яе нязменным галоўным рэдактарам па 1982 год, а пасля актыўна супрацоўнічаў з выданнем.**

Падчас урачыстасці цяперашні галоўны рэдактар «Чырвонай звязды», старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч узгадаў жыццёвы шлях творцы.

У вайну Аляксей Трафімавіч змагаўся з ворагам у партызанах. За баявыя заслугі ўзнагароджаны ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга і Вялікай Айчыннай вайны II ступені, шасцю медалямі, у тым ліку «Партызан Вялікай Айчыннай вайны І ступені», «За перамогу над Германіяй у 1941 — 1945 гг.». Працаваў рэдактарам некалькіх раённых газет на Брэстчыне, уласным карэспандэнтам абласной газеты «Заря», аўтар шэрагу кніг, быў членам СПБ і Беларускага саюза журналістаў, удастоены звання заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**Антаніна КІТ**

# Княгіня апякуецца паэтам

Паэт Ігар Субоцін, член Гродзенскага літаратурнага аб'яднання «Надзея» і клуба творчай інтэлігенцыі «Грані», вярнуўся з цырымоніі ўручэння прэміі «Наследие», што адбылася ў Цэнтральным доме літаратараў у Маскве.

Узнагарода заснавана расійскімі пісьменнікамі сумесна з Расійскім імператарскім домам пад апекаваннем Яе Імператарскай Вялікасці княгіні Марыі Уладзіміраўны. Яна пакінула свой аўтограф на дыпломе наміната літаратурнай прэміі «Наследие» і ў аднайменнай кнізе, уручаных Ігару Субоціну.

Творца прывёз з Масквы яшчэ два дыпломы ад партала Стихи.ру (паэт года), а таксама зборнік «Российские поэты», у які ўвайшлі і яго творы.

**Тамара МАЗУР**

# Да Тызенгаўза

**Выстаўка-продаж работ беларускіх мастакоў праходзіць у Гродне — культурнай сталіцы Беларусі. У галерэі «Тызенгаўз» сабраны карціны мастакоў з розных куткоў нашай краіны, а таксама замежжа.**

Выставачны сезон у «Тызенгаўзе» пачынаецца з другой паловы верасня і доўжыцца да мая — гэта час персанальных экспазіцый. Узяць удзел могуць не толькі вядомыя мастакі, але і студэнты Гродзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, чые працы адзначаюцца высокай якасцю і наватарствам.

Летам галерэя працуе як салон: арганізоўваюцца выстаўкі-продажы, праводзяцца паказы работ, створаных падчас пленэраў. Сёлетняя выстаўка сабрала работы гродзенцаў: Валянціна Шабэ, Вацлава Спорскага, Генадзя Піцко, Валерыя Малочкі, Пятра Янушкевіча. Прадстаўлены карціны мінскіх творцаў: Васіля Касцючэнкі, Ганны Сілівончык, Васіля Пяшкуна, львоўскага мастака Алега Гіжага. Аматары мастацтва змогуць набыць упадабаныя карціны па прымальным кошце.

**Вікторыя ГАБРУСЕВІЧ**

# Выявы Першай сусветнай

**Культурна-асветніцкі праект «Перазвон стагоддзяў» адкрыўся 7 жніўня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Тры выстаўкі ў межах праекта прысвечаны 100-годдзю з пачатку Першай сусветнай вайны. Палі бітваў, руіны гарадоў... Дым раз'ядае вочы і само неба... Пакалечаныя салдаты, пах гару, выбухі, мужнасць і надзея ў вачах... Поўныя драматызму эмоцыі і асацыяцыі паядналіся ў творах экспазіцый.**

На адной з іх Першая сусветная вайна прадстаўлена ў літаграфіях Жана-Луі Фарэна, якія датуюцца 1914 — 1917 гадамі. Кожная з 56 прадстаўленых работ напісана ўнікальным «почыркам» і адлюстроўвае трагізм жыцця не толькі салдат, але і мірнага насельніцтва.

Жан-Луі Фарэн — французскі жывапісец, літограф, графік і кніжны ілюстратар, нарадзіўся ў Рэймсе ў далёкім 1852 годзе. Мастак праславіўся як востры карыкатурыст і строгі выкрывальнік дурных грамадскіх звычаяў. Нельга не заўважыць, што ў яго творчасці адчуваецца лёгкі ўплыў стыляў Эдуарда Манэ і Эдгара Дэга.

Другая выстаўка «Першая сусветная вайна ў амерыканскім плакаце, літаратуры, кіно і музыцы» ўключае 26 рэпрадукцый маляўнічых плакатаў з кідкімі заклікамі і лозунгамі, створаных у перыяд баявых дзеянняў. Побач на стэндах размясціліся таксама дваццаць тэматычных кніг і дваццаць два дыскі з музыкай і фільмамі пра вайну. Цікава, што амерыканскія плакаты, якія ў гады бітваў з'яўляліся ў газетах, былі часткай паўсядзённага жыцця кожнага амерыканскага грамадзяніна, сталі праз нейкі час сапраўднымі творамі мастацтва. У працах мастакоў з ЗША, якія ўвайшлі ў экспазіцыю, прасочваюцца перш за ўсё патрыятычныя ноткі.

У кнігах, прадстаўленых на выстаўцы, не толькі мастацкія творы, але і грунтоўныя даследаванні амерыканскіх навукоўцаў, якія дазваляюць паглядзець на Першую сусветную вайну з новых ракурсаў: перасэнсаваць прычыны і зыход.

Сярод фільмаў, дакументальных і гульнявых, — такія стужкі, як «Легенды восені», «На Заходнім фронце без пераменаў», «Апошнія галасы Першай сусветнай».

Трэцяя выстаўка — «Пераклічка стагоддзяў: Першая сусветная вайна і свет сёння» — дэманструе графічныя работы мастакоў і педагогаў з Беларусі, Расіі і Украіны. Творы выкананыя па матывах шэдэўраў ваеннай паэзіі і прозы вядомых пісьменнікаў — Г. Ахматавай, М. Цвятаевай, В. Мандэльштама, А. Блока, М. Валошына, М. Гумілёва, У. Маякоўскага, Э. М. Рэмарка, А. Талстога, М. Шолахава і іншых. Так, Наталля Бабіна з расійскага горада Уфы стварыла карціну «Пахне гарам» па матывах верша Г. Ахматавай «У ліпені 1914-га», дзе паказала разбураныя і абвугленыя пабудовы, а Аксана Гарбузова з Харкава адлюстравала салдат, якія сталі на вайне таварышамі па няшчасці.

З праектам «Перазвон стагоддзяў» можна пазнаёміцца да 10 верасня.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Акцыі*

# Гучалі новыя радкі

У мінулыя выхадныя ў Верхнядзвінскай раённай бібліятэцы ў межах акцыі «Лета з добрай кнігай», якая праводзіцца па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, адбылася літаратурная сустрэча са старшынёй Віцебскага абласнога аддзялення СПБ, паэтэсай, публіцыстам і празаікам Тамарай Красновай-Гусачэнка.

На прэзентацыю новай кнігі паэтэсы «Сустрэча», якая пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», у чытальнай зале кніжніцы сабраліся члены клуба цікавых сустрэч «Сучаснік».

Падчас шчырай размовы з аўтарам чытачы і прыхільнікі творчасці паэтэсы атрымалі адказы на шматлікія пытанні. У выкананні Т. Красновай-Гусачэнка прагучалі вершы, якія ўвайшлі ў кнігу, а таксама напісаныя нядаўна.

**Ларыса ІВАНОВА**

*Фота Валерыя Салаўёва*



Тамара Краснова-Гусачэнка знаёміць дзяцей са сваёй новай кнігай.

*Сярод кніг*

# Факты для росшукаў

**На маім рабочым стале — слоўнік «Літаратуры народаў Расіі» (Масква, «Наука», 2005). Пісаць рэцэнзію ці агляды артыкул амаль праз дзесяць гадоў пасля з'яўлення кнігі ў свет, відавочна, далёка не актуальны клопат.**

І ўсё ж хацелася б, каб у Беларусі не была абыдзена ўвагай своеасаблівая энцыклапедыя, што прадстаўляе больш як 50 нацыянальных літаратур і найцікавейшых іх прадстаўнікоў розных пакаленняў.

Давайце паспрабуем акрэсліць узаемастасункі нацыянальных літаратур у звязку з Беларуссю, айчыннымі культурай і літаратурай.

У слоўніку пададзены падрабязныя артыкулы пра паэтаў Дагестана Расула Гамзатава, Фазу Аліеву, Гамзата Цадасу і іншых, чые творы перакладзены і на беларускую мову. У раздзеле «Яўрэйская літаратура» згадваюцца расійскія яўрэйскія пісьменнікі, якія нарадзіліся ў Беларусі. Размова — пра паэта, драматурга, перакладчыка Самуіла Галкіна (нарадзіўся ў Рагачове ў 1897 г.), празаіка, драматурга Натана Забару (нарадзіўся таксама ў Рагачове, але ўжо ў 1908 годзе), паэта, перакладчыка Маісея Тэйфа (нарадзіўся ў Мінску ў 1904 годзе).

Надрукавана і падрабязная біяграфія нашага земляка Аляксея Каўкі (нарадзіўся ў 1937 годзе ў Чэрвеньскім раёне), даследчыка аддзела літаратур народаў Расіі і СНД Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага Расійскай Акадэміі навук, дзе Аляксей Канстанцінавіч адпрацаваў 15 гадоў. У артыкуле — і бібліяграфія беларусазнаўчых публікацый Аляксея Каўкі.

Слоўнік уяўляе пэўную цікавасць і як першакрыніца для літаратурна-краязнаўчых росшукаў. У біяграфіях многіх пісьменнікаў распавядаецца пра іх удзел у Вялікай Айчыннай вайне і ў Першай сусветнай: шмат хто прайшоў ваеннымі сцежкамі якраз па тэрыторыі Беларусі. Як прыклад — якуцкія пісьменнікі Пётр Табурокаў, Георгій Сырамятнікаў, Серафім Кулачыкаў, чувашскія паэты, празаікі Сямён Эльгер, Мікалай Шубасіні, Педар Хузангай, Хведэр Уяр, Мігулай Ільбек, Аляксандр Арцем'еў, хакаскі літаратар Міхаіл Кільчычакаў, удмурцкія пісьменнікі Міхаіл Пятроў, Мікалай Байцеракоў, Акі Ашальчы і інш. Дарэчы, сярод удзельнікаў пленума СП СССР у Мінску ў 1936 годзе была башкірскі празаік Хадзія Лутфулаўна Даўлетшына.

Слоўнік «Літаратуры народаў Расіі: XX стагоддзе» робіць і іншыя падказкі для гісторыкаў літаратуры, літаратуразнаўцаў. Абмінаць іх наўрад ці варта.

**Павел АЛЬСОВЫ**

*З нагоды*

# Чакаем цудаў. Калядных

Лета не паспела скончыцца, а «Маладосць» ужо марыць пра Каляды. Думаеце, ранавата? Маеце рацыю, восень жа яшчэ не наступіла… Толькі ж «маладосцеўцам» на месцы не сядзіцца: трэба тэматычны калядны нумар рыхтаваць. А значыць, ужо пара гукаць паэтаў, празаікаў, драматургаў, эсэістаў, казачнікаў, публіцыстаў, крытыкаў, даследчыкаў літаратуры, каб дасылалі нам творы, прасякнутыя духам самых цёплых і чароўных святаў Божага Нараджэння і Новага года.

Калі вы ніколі не пісалі нічога падобнага, дык вось вам, калі ласка, нагода паспрабаваць. Вершы з пахам мандарынаў і карыцы, апавяданні (а мо і раманы), навеяныя зімовымі дзіцячымі ўспамінамі, казкі, натхнёныя прагай цудаў… Тварыце і дасылайце. Санта Клаўс, Зюзя, Снягурка — вам у дапамогу! А мы чакаем…

**Тамара САРАЧЫНСКАЯ**

# Ганаровы грамадзянін

**Нядаўна ў г. Буда-Кашалёве прайшлі ўрачыстасці з нагоды 90-годдзя ўтварэння раёна. Да юбілею прымеркавалі адкрыццё раённага Дома культуры, які гасцінна расчыніў дзверы пасля рэканструкцыі.**

З галоўнай сцэнічнай пляцоўкі было аб'яўлена рашэнне раённага Савета дэпутатаў аб прысваенні пачэснага звання «Ганаровы грамадзянін Буда-Кашалёўскага раёна» пяці знакамітым ураджэнцам. У іх ліку — пісьменнікі Валерый Калінічэнка і Мікола Чарняўскі. В. Калінічэнка ў свой час узначальваў раённую газету «Авангард». Сёння ён член Саюза пісьменнікаў Расіі, заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі, цяпер жыве ў Маскве.

М. Чарняўскі добра вядомы аматарам беларускай літаратуры. Яго вершы ўключаны ў многія школьныя падручнікі, творчая і грамадская праца адзначана дзяржаўнымі ўзнагародамі і многімі літаратурнымі прэміямі. А званне «Ганаровы грамадзянін» толькі змацуе повязь творцы з малой радзімай.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

*Нашы*

# Кастрама апладзіравала

Хоцімскі фальклорны ансамбль «Адраджэнне» трэці раз становіцца лаўрэатам Міжнароднага фестывалю народнай творчасці «Нашы старажытныя сталіцы» ў Кастраме.

У мерапрыемстве бралі ўдзел 35 калектываў з Беларусі, Расіі, Арменіі і Германіі. Сёлетні фэст быў прымеркаваны да святкавання Дня горада Кастрамы і 70-годдзя Кастрамской вобласці.

Беларускія артысты настолькі спадабаліся кастрамчанам і арганізатарам фестывалю, што ўдзельнікам калектыву прапанавалі прэзентаваць сваю творчасць на некалькіх пляцоўках горада і ў Дзяржаўнай філармоніі Кастрамской вобласці. Артысткі «Адраджэння» прадставілі ўвазе гледачоў новую праграму, якая складаецца выключна з беларускіх песень.

**Міра ІЎКОВІЧ**


Хізры Асадулаеў (злева) і Рыгор Барадулін.

**Дзесьці высока, у гарах Дагестана, сярод нябеснай даліны, акрытай «вятрыстай зялёнай хусцінай», прытулілася сяло Карата, знакамітае ўжо тым, што спакон веку тут бытуе адзіная ў свеце, «гордая і святая», «гулкарэхая карацінская мова». Вясной 1956 года ў Караце нарадзіўся Хізры Асадулаеў. Усявышні шчодра надзяліў яго талентамі: скульптар, кампазітар, паэт. Лёс распарадзіўся так, што час творчага росквіту заспеў Хізры Асадулаева на сталым жыхарстве ў Беларусі, дзе гонар творцу робяць яго вытанчаныя скульптурныя кампазіцыі, задушэўныя вершы і песні, якім уласціва філасофскае асэнсаванне прыроды, бязмежная любоў да ўсяго жывога на зямлі, увасабленне дабрыні і чалавечнасці. На сваю родную карацінскую мову Хізры Газіевіч пераклаў многія творы айчыннай паэтычнай класікі, у тым ліку Янкі Купалы, Якуба Коласа, Рыгора Барадуліна.**

## Хізры АСАДУЛАЕЎ

### Квітнецьме зноў...

*Ёсць восень свая і ў вясны.
Не вечна ўраджаю стае.
У кожнага ўзросту ў жыцці
Вясна і восень свае.*

*Яна маладзее ў вяках,
Краса неразбуджаных сноў.
І тое, што сеялі мы
У мроях, квітнецьме зноў.*

### Сонечныя промні

*У промнях сонца,
Што танцуюць на вадзе,
Твой воблік бачу,
Што мяне з сабой вядзе.*

*Ва ўмытай шчасцем
Глыбіні вачэй тваіх
Убачыць воблік свой
Хацеў бы хоць на міг.*

### Бяда

*Не ў тым бяда адпаведная,
Што нечысці нечысць не ведае.
У тым бяда —
вестка чорнага дня,
Што не беражэ чысціню
чысціня.*

*Яны цікуюць адна за адной.
У кожнай звычай і нораў свой.
І нечысць, пэцкаючы чысціню,
Ціснецца да яе ў радню.*

### Ці трэба, каб скруціла...

*Ці трэба, каб скруціла ў крук,
Каб узгадалі неба вочы?
Ці трэба акунуцца ў гразь,
Каб ведаць —
бруд адстаць не хоча?*

*Мазгамі цяжка зварухнуць.
Што хочам мець, мы тое маем.
І кожны раз, як першы раз,
На тыя ж граблі наступаем.*

### Узросту свайго не адчуеш...

*Узросту свайго не адчуеш
І грузу пражытых гадоў,
Калі надта старасць уважыш
Па звычаю даўнім бацькоў.*

*Як зорна ўзнясе цябе слава,
Дык твой не прысленіцца зрок,
Калі ты памятаць будзеш
Калыску сваю і гаршчок.*

### Бачыць навучыся

*Бачыць навучыся —
Таямніца табе адчыніцца.
Чуць навучыся —
Таямніца ад цябе не ўтаіцца.*

*Слухаць навучыся —
Таямніцу спазнаеш.
Думкі выказваць навучыся —
У свет святла завітаеш.*

### Калі пастарацца...

*Можа дол скамянець,
не ўзысці трава,
Можа цемру начную
світанне сцерці.
Толькі як ні хацелі б мы
ў гэтым жыцці,
Нам ніяк аднаго
не пазбыцца — смерці.*

*І без нас будзе сонца
ўзыходзіць штодня,
Будзе светлая поўня
ўставаць над зямлёю.
Стане парай вада,
ляжа ціха туман.
Як вада, пераменіцца ўсё жывое.*

*Хоць нас цемра глыне,
ды калі пастарацца,
На зямлі светлы промнік
наш можа застацца.*

### Святло лямпачкі

*Лямпачка гарыць на слупе,
Быццам зорка жывая.
І запыненае святло
Лужынка адбівае.*

*Зоркі — сёстры
на хісткай вадзе
Западаюць у вочы ночы.
І падобныя ўсе яны
На карагод дзявочы.*

*Іх адносіць ў левы бок,
Вецер мройліва-лёткі.
А пасля яны ўправа плывуць,
Як успомненыя лябёдкі.*

*Думкі нашыя ў далеч плывуць
У нязгубленай згодзе.
Кружым мы
ў заваражаным забыцці
У адным карагодзе.*

*І ў жыцці так, пакуль пагляд
Зіхацінкі лагодзіць,
Нешта галоўнае ў гэтым жыцці
Ціха паўз нас праходзіць.*

### Пыха

*Я ледзьве саскочыў
з матчыных рук,
Пачаў вычвараць усё,
што папала.
З вятрамі насіліся думкі мае
І пыха маю
галаву задрала.*

*Спакойна я абед прычакаў
І сэнс жыцця пагрукаўся ціха.
Цяжэйшай стала мая галава
І ад мяне адвярнулася пыха.*

*Калі на вячэру каша адна,
У іншым сэнс душа адшукала.
Я ў думках глыбеў,
адляцела лухта
І пыха зусім
непатрэбнай стала.*

### Вясновы дождж

*Дух вясны падужэў.
Свет зрабіўся
зялёным.
Лета лёгкай хадою
ўладарыць ідзе.
Сёння дождж разгуляўся.
Грыміць
навальніца.
Пахаваліся птушкі —
нічога нідзе.*

*І махаюць галінамі,
быццам рукамі,
Скачуць радасна
дрэвы пад цёплым
дажджом.
Б'юцца кроплі ў вакно,
просяць даць ім
прытулак.
Напаўняючы музыкай
сэрца і дом.*

*Ручаінкі бягуць,
галасіста спяваюць,
Адгукаецца ў далях
напеў малады.
У вакно пазіраю
я ў Мінску, а бачу
Карацінскія ў вэлюме
цвету сады.*

### Карацінская мова

*Калі я чую мову Караты,
Душа, як кветка,
просіцца раскрыцца.
Мелодыю нябеснай мілаты
На крылах радасці нясе арліца.*

*У роднай мове кожны гук пяе
І раны песняй шчыраю бінтуе.
Усявышні нам падараваў яе,
Як горы, мову гордую, святую.*

*Пачуў, як гутарку вякі вялі
На гулкарэхай
карацінскай мове,
І светла жыць
мне стала на зямлі —
Смяецца сонца
ў кожным родным слове.*

### Хвалу й падзяку Беларусі...

*Шчаслівы ў Беларусь прыехаў
І дружбу гор прывёз з сабою.
Яна мне шчыра адказала
Сваёй пяшчотнаю любоўю.*

*Сваёй душы перада мною
Яна распасцежыла далі.
І карацінскай мовы гукі
Па-беларуску загучалі.*

*І Беларусь мяне паіла
Вадой з чароўнае крыніцы.
І Мінск — маіх дзяцей радзіма —
Стаў горных дум маіх сталіцай.*

*Мне ўсё тут стала дарагое.
Я гэтым краем ганаруся.
На карацінскай мове ўзношу
Хвалу й падзяку Беларусі.*

**Пераклад з карацінскай мовы Рыгора БАРАДУЛІНА**

## Ніна КАВАЛЁВА



### Зязюльчыны дзеці

*Дарэмна, матулі,
Таіцца вам гэтак,
Калі, як зязюлі,
Вы кінулі дзетак.*

*Яны вас шукаюць,
Блукаюць па свеце,
Бо іх называюць
Зязюльчыны дзеці.*

*— Якая ты маці?
Ты плачаш? Сумуеш?
Жывеш ты у хаце
Ці, можа, бамжуеш?
Ці, можа, хварэеш,
А побач не родны?
А можа, старэеш
Ад ночак галодных?*

*А я б табе мякка
Пасцелю паслала,
А я б сваім сэрцам
Цябе сагравала.*

*Маглі б твае ночы,
Як сонейка, зззяці,
Калі б мне аднойчы
Знайсці цябе, маці.*

### Жаночы лёс

*Сэрца працяла жальбой
Песня матулі маёй
Пра маладую дзяўчыну,
Гора ў якой
за плячыма.*

*Плёткі па вёсцы гудуць:
«Дзеўку ў замужжа вядуць.
Дзеўка заходзіцца дужа:
Дзеткі маленькія
ў мужа».*

*Доля падказвае ёй:
«Гэта ж сястрыцы тваёй.
Трэба табе пакарыцца,
Болей ужо
не дзяўчыца.
Кветкі ў вяночкі не віць,
Водару вуснаў не піць,
Любага больш не кахаці —
Стаці сіроткам
за маці».*

### Шкадуй мяне

*Люблю, шкадую,
як тут хочаш.
Прымай за слова пачуццё,
А я з табой і дні, і ночы,
А я з табой на ўсё жыццё.*

*І ты шкадуй мяне таксама
У ласцы, горы і ў журбе,
Каб разлікоўай тэлеграмы
Не атрымаць мне ад цябе.*

*Калі за кожнае расстанне
Мяне ты будзеш шкадаваць,
То пашкадуеш і каханне,
Калі захочаш раскахаць.*

### Мачыха

*Сэрца, з горачкам звыклае,
Ты прыціш гэты боль.
Абавязак свой выканаць
Мне, гаротнай, дазволь.*

*Сэрца, сэрцайка мілае,
Пацярпі, не шчымі,
Ты пад крылы адзіныя
Сірацінак прымі,
Што да маці туліліся
У шчаслівы свой час,
А цяпер прытаіліся,
Аглядаючы нас.*

*Сэрца, сэрцайка роднае,
Дай ім ласку і дом,
Хай каханне пяшчотнае
Іх агорне цяплом.*

*Каб яны не таіліся
За бацькоўскай спіной,
Да цябе каб туліліся,
Як апоры сваёй.*

### Адкажы на пытанне

*У расстанні жывём,
у расстанні.
Мы не слухалі сэрцаў сваіх.
Адкажы на такое пытанне:
Аднаму харашэй ці ўдваіх?*

*Адкажы на такое здарэнне:
Вось рука твая
побач была
І нібыта хацела збаўлення —
Фотакартку
зняла са стала.*

*Я трымаю сваю палавіну —
Вось яна, глянь —
у пальцах тваіх.
Адкажы у такую хвіліну:
Аднаму харашэй ці ўдваіх?*

Анатоль СМАЛЯНКА

# Мясцовае паліва

## Апавяданне



Яны сядзяць на лаўцы ў цяньку развесістай бярозы. Для мужа і жонкі Міклашэвічаў гэта самае любімае і ўтульнае месца, дзе можна крышачку адпачыць ад гаспадарчых турбот. Сёння Ціхан і Ганна ўбіралі сена са свайго надзелу, а потым зацягнулі сухі мурог на гарышча хлява, так што казе хопіць корму на ўсю зіму. Змарыліся канчаткова, сем патоў сышло, пакуль управіліся. Лёгкі жнівеньскі скавыш прыемна ахалоджвае разагрэтае цела, выветрывае стому, пакрысе заспакойваецца і дыханне.

А што ж вы хочаце? Муж перасягнуў ужо сёмы дзясятак, а жонка на шэсць гадоў маладзейшая за яго. Самую цяжкую работу заўсёды бярэ на сябе Ціхан, або Цішка, як называе яго жонка, — моцная, рослая жанчына, прыгожая з твару, крышку загарэлага, з прыкметным павуціннем маршчынак. Ды й у вёсцы ўсе клічуць яго не інакш, як Цішка. Так павялося здаўна. Ён прайшоў суровую марскую школу за чатыры гады службы. Загартаваўся, узмужнеў, так што дадому вярнуўся дужым хлопцам — дзяўчатам на зайздрасць. Пасля вучобы сумленна працаваў аграномам, пасівеў рана, хоць белыя валасы быццам бы і не кідаюцца ў вочы, толькі пры гэтым неяк дзіўна трымаюць шапку на галаве.



Фота Кастуся Дробава

Маўчаць. За працяглае сумеснае жыццё ўсё даўно перагаворана, перадумана, узважана.

— Засталося выкапаць бульбу, буракі, убраць капусту, а там, глядзіш, і халады, — заўважае між іншым Ціхан, шкадуючы мінулага лета, цёплых, сонечных дзён. Скоса пазірае на жонку і раптам пытае: — А ты памятаеш, што здарылася вось тут, каля гэтай бярозы? Памятаеш?

— Ат, ці ўсё ўпомніш? Колькі год прайшло! — адмахнулася яна, насупіла бровы, аднак дадала: — А чаму ты пра гэта загаварыў?

— Эх, Ганна Гаўрылаўна, як жа так? — з некаторым дакорам выгукнуў Ціхан, здзіўлены, што жонка пра галоўнае забылася. Павярнуўся да яе і зашаптаў, быццам хто падслухоўвае: — Усё ў нас і пачалося адсюль, ад гэтай бярозкі. Яе мой бацька у 44-м пасадзіў, калі вызвалілі ад фашыстаў нашу вёску. Восенню, пасля жніва (ён быў старшынёй калгаса) бацьку мабілізавалі ў армію, вось ён і пакінуў памяць: «Няхай расце, можа, мяне і не кране варожая куля...» — І вярнуўся дадому, увесь паранены, два лёгкія і адно цяжкое раненні, але з ордэнамі і медалямі на грудзях...

Старшынёй калгаса Мацвей Міклашэвіч адпрацаваў некалькі гадоў, а паміраючы, наказаў Ціхану як старэйшаму сыну берагчы гэтае дрэўца, гэту бярозку. Расла яна, раслі дзеці. Паціху наладжвалася і жыццё. А тут і сынанашчадка прызвалі на Паўночны флот. Потым Ціхан скончыў сельскагаспадарчы інстытут, стаў аграномам.

— Аднойчы, прыехаўшы з Мінска дадому, трапіў на танцулькі ў клуб і ўбачыў цябе, — Цішка перайшоў у згадках да новага этапу свайго жыцця. — Запала ты ў маё сэрца, чаго са мной, дарэчы, дагэтуль ніколі не было. Ну і, сама ведаеш, пачаў нудзіцца, сумаваць, часта думаць пра цябе...

— Ай, ведаю, куды хінеш, — Ганна прыціснулася да мужа. — Завёў мяне сюды, праз гэтую кладку, і я ў ржавую ваду чуць не шабултыхнулася. Памятаю, а як жа!

— Ды не ў тым справа, — з нейкай крыўдай адазваўся Ціхан Мацвеевіч. — Ну а далей не забылася, што было?

— Вунь ты пра што вядзеш размову! — здагадалася яна. — За табой дзяўчаты гужом хадзілі. Як жа — жаніх што трэба. Статны, рослы, вочы-вугельчыкі, ды й валасы не тое, што зараз.

Ганна Гаўрылаўна цішком усміхнулася, з замілаваннем успамінаючы далёкія маладыя гады.

— Тады я надумаў цябе не ўпускаць, — ён абняў жонку за плечы, прыхінуў да сябе.

— Эх, Цішка, Цішка! Ад тваёй ласкі, пяшчоты ды гарачых слоў пра вернасць і каханне я не змагла ўтрымацца, — уздыхае яна, апусціўшы галаву. — Думала, падманеш, кінеш потым, насмяешся нада мной, нецямлівым вясковым дзяўчом, мне ж не было і васямнаццаці.

— І атрымалася, як у той песні: «и не одна трава помята...» — Ён мацней абдымае жонку: — Не падмануў жа! Пражылі мы больш за паўвеку з гэтай бярозай, бач, як яна ўзнялася, якая лістота, а ствол бялюткі, роўны — словам, любата. Зямля тут добрая, ды й мы да яе з любоўю. Двух сыноў у людзі вывелі.

Ціхан Мацвеевіч пачуў блізкі віскलівы трэск бензапілы і насцярожыўся. Ён зразумеў, што валяць нізкарослыя каштаны ўздоўж вуліцы. Сэрца яго сціснулася: навошта ж іх знішчаць? Ці ж будуць замест іх новыя прысады? Што ўпрыгожыць вуліцу? Бач, знайшлі адгаворку, маўляў, старыя і нягеглыя ўжо дрэвы, могуць каго-небудзь пакалечыць, а то і прыдушыць. А справа ўся ў тым, што на зіму трэба дроў нарыхтаваць, каб даць цяпло ў майстэрні, школу, дзіцячы садок. Адной лазні шмат дроў трэба мець. З таго часу, як пачалі пераходзіць на мясцовае паліва, усе шашэйныя дарогі агалелі, не растуць уздоўж шляху ні бярозкі, ні клёны, ні таполі — як ветрам здзьмула.

Разважаючы так, Ціхан Мацвеевіч улаўлівае стук адчыненай брамкі. Па двары ідуць трое мужчын: адзін нясе «хускварну», другі — бусак з металічным вастрыём і крюком на канцы, трэці цягне пластмасавую каністру з бензінам. Прайшлі па кладцы да Міклашэвічаў. Спыніліся, не ведаючы, як распачаць непрыемную размову.

Ціхан прыўзняўся, павітаўся з кожным за руку.

— З чым прыйшлі, хлопцы?

— Тут вось якая справа, — пачаў той, хто трымаў доўгі бусак. — Старшыня загадаў усе старыя дрэвы, гэта самае, пад корань знішчыць ды парэзаць на дровы. Пераходзім, так бы мовіць, на мясцовае паліва.

Ціхан Міклашэвіч болей не слухаў балбатуна, мяркуючы, якім чынам уратаваць сваю бярозку, да якой яны з жонкай прыкіпелі душой, нават вясною не даюць нікому наблізіцца да яе, каб спусціць сок. Можа, бутэльку самагонкі ды шматок сала на закусь, то і адмовіліся б дрывасекі ад гіблай справы.

— Хлопцы, прашу вас, малю, гатоў перад вамі на калені стаць — не пілíце бярозу! — гаспадар сядзібы падышоў, як яму падалося, да старэйшага ў брыгадзе, нешта шапнуў яму на вуха.

Той адмоўна матлянуў галавой, маўляў, загадаў старшыня парэзаць яе, а цуркі адвезці ў кацельню.

Міклашэвіч зноў пачаў упрошваць рабочых, спасылаючыся, што аддзячыць, толькі б адмовіліся знішчыць бярозу. Да яе ж ніхто, акрамя гаспадара і гаспадыні, і не падыходзіць, яна каранямі чэпка трымаецца за зямлю і не баіцца нават моцных вятроў ды й ніякай пагрозы людзям не ўяўляе і не кранаецца электраправадоў.

— Загад, што зробіш. Мы і самі не пілілі б бярозу, але ж мы толькі выканаўцы, — развёў рукамі вальшчык з бензапілой. Ён апусціў «хускварну» на зямлю і намерыўся яе завесці.

— Хлопцы, пачакайце, я да старшыні. — У Ціхана гэта была апошняя магчымасць выратаваць бярозу. — Я хуценька, адна нага тут, другая там, а вы тут пасядзіце крышку.

Пакуль ён таропка шукаў кіраўніка мясцовай улады, рабочыя, груба адштурхнуўшы Ганну Гаўрылаўну з лаўкі, вокамгненна зрэзалі дрэва, і яно цяжка, са стогнам, абрынулася долу. Усе трое, як каларадскія жукі, церабілі вецце з лісцем, рэзалі ствол на цуркі і кідалі іх у кучу.

У жанчыны на вачах заблішчалі слёзы. Чуліся не віскліявыя гукі пілы, а, здавалася, жаласлівы голас, што прасіў дапамогі. Ганна, пражыўшы век разам з гэтай бярозай, нецярпліва чакала мужа. Хістаючыся, перайшла па кладцы цераз ручай — не змагла больш глядзець на хамства і бессардэчнасць. Ішла ў глыбокай маркоце, уся знерваваная, і нечакана сутыкнулася з запыханым Цішкам. Ён спыніўся. Замёр. Тлела надзея, і ён з радасцю вымавіў: «Свой загад старшыня адмяніў!» Але гэта яе не ўзрадавала, і муж адразу змяніўся з твару.

— Што? Няма бярозы?

— Цішка, родненькі ты мой, не хадзі туды... Яны... Ужо ўсё... — заплакала жонка і, згорбленая, як сляпая, пасунулася ў хату.

Здалёк Ціхан убачыў пустое месца, дзе толькі што стаяла, дыхала беластвольная прыгажуня. Апусціўшы галаву, зняў шапку...

— Што вы нарабілі, сукіны дзеці! — крыкнуў ён. — Бярозу бацька мой пасадзіў, і яна яго помніла, і мы нарадавацца, гледзячы на яе, не маглі. — Павольна Ціхан апусціўся на траву і больш не сказаў ні слова.

Яму было вельмі дрэнна: ішла кругам галава, паколвала ў грудзях, сушыла ў роце, пачашчана біўся пульс... Рабочыя, убачыўшы змрочнага, учарнелага Цішку, пайшлі з двара, быццам бы нічога не здарылася, толькі нехта з іх, праходзячы каля хаты, крыкнуў у прачыненае акно: маўляў, вадзічкі гаспадару падайце.

Ноччу яго адвезла ў бальніцу «хуткая дапамога». Ціхан Мацвеевіч так і не выкарабкаўся ад інфаркту. Хавалі былога заслужанага агранома ўсёй вёскай. Нехта асуджаў яго за тое, што так глыбока прыняў да душы крыўду, хтосьці не мог зразумець, што з-за нейкай бярозы можна зажурыцца, забедаваць, аж да крайнасці дайсці.

Цяпер вуліца пустэльная — ні дрэў, ні прысады. Але ці ж будзе ад тых дроў цёпла людзям?

*Празаічны партрэт*

# Сталенне і букет цюльпанаў

**«Блаславёны той, хто знайшоў сваю справу ў жыцці: большага нам не дадзена», — сказаў брытанскі пісьменнік Томас Карлайл. Пэўна, пісьменніцу Ірыну Фамянкову можна лічыць блаславёнай. Сёння яе імя добра вядома гродзенскім чытачам, а кнігі яе карыстаюцца папулярнасцю: на паліцах Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. Макаёнка іх не заўсёды можна знайсці.**



Ірына Васільеўна нарадзілася ў Расіі, але ўсё жыццё пражыла ў Гродне, дзе прапрацавала ў школах больш за 40 гадоў. Настаўніцкі вопыт, сувязь з псіхалогіяй, этыкай, багаты жыццёвы досвед склалі аснову, з якой вырасла яе творчасць. Да ўсяго — праца пазаштатным карэспандэнтам пры газеце «Гродзенская праўда», што таксама паслужыла штуршком для літаратурнай творчасці.

Творы І. Фамянковай друкаваліся ў шматлікіх рэспубліканскіх газетах, у альманахах «Галасы», «На Нёманскай хвалі» і ў шэрагу калектыўных зборнікаў, у тым ліку кнігах серыі «Вера. Надзея. Любоў».

Першы самастойны зборнік прозы «Радасць і смутак» («Радость и печаль», 2006) паказаў уменне аўтара працаваць у жанры кароткага апавядання. Збольшага такія творы вызначаюцца чалавечыя характары і ўзаемаадносіны. Героі пароснаму праходзяць жыццёвыя выпрабаванні, але часцей за ўсё перамагаюць, захаваўшы пры гэтым высокае пачуццё годнасці.

Другая кніга І. Фамянковай — «Трапятанне ліста» (2007) змясціла больш аб'ёмныя творы: аповесць, нарысы, успаміны. У іх можна заўважыць пэўную эвалюцыю: асэнсаванне жыццёвых фактаў, псіхалагічнае абгрунтаванне ўчынкаў герояў, стварэнне запамінальных карцін прыроды і вобразаў другога плана. Прататыпамі для многіх персанажаў сталі сябры, блізкія і проста знаёмыя людзі. Праблема ўзаемаадносін розных пакаленняў вельмі кранальна раскрыта ў аповесці, якая дала назву кнізе.

Жаночыя лёсы — галоўная тэма кнігі «Усмешка раніцы» (2008). Гераіні лірычных аповесцей умеюць пераадольваць цяжкасці і заставацца Жанчынамі ў самым высокім сэнсе гэтага слова. Тут жа апісаны гісторыі пра каханне, якое не часта здараецца ў жыцці і лічыцца сапраўдным падарункам лёсу. У аповесцях І. Фамянковай ёсць месца таямніцы ды інтрызе.

За зборнік «Водар белага наліву» («Аромат белого налива», 2010) Ірына Васільеўна была ўганаравана дыпломам лаўрэата рэспубліканскага конкурсу «Лепшы твор 2010 года» ў намінацыі «Проза». У кнігу ўвайшлі аповесці і апавяданні, у якіх выявілася ўменне аўтара дакладна перадаць думкі без доўгіх тлумачэнняў і непатрэбных падрабязнасцей.

У 2013 г. у Выдавецкім доме «Звязда» выйшаў новы зборнік апавяданняў І. Фамянковай «Усё пачынаецца з дзяцінства». А. Карлюкевіч у водгуку на яго напісаў: «Новы зборнік апавяданняў адкрывае твор з вельмі сімвалічнай назвай «Вясёлка настрою». Уся кніга ўяўляецца мне вясёлай, напоўненай колерамі вясёлкі, яркім успрыманнем падзей, якія адбываюцца. Гісторыі, апісаныя аўтарам, носяць павучальны характар. Нас чакаюць сустрэчы з рознымі сітуацыямі, дзе дзецям і дарослым трэба прыняць рашэнне. Часам вельмі сур'ёзнае і важнае».

Як настаўніца аўтар асабліва пранікліва ставіцца да праблемы сталення асобы ў падлеткавым узросце. У навеле «Цюльпаны» ўзлаваны хлопчык, які не разумеў настаўніцу ў канфліктнай сітуацыі, знішчае кветкі ў яе кветніку. Прайшло шмат гадоў. «І аднойчы ў прыцемках сакавіцкага вечара ў дзверы майго дома пастукалі. На парозе стаяў высокі, прыгожы, падцягнуты юнак, у якім я ледзь пазнала Раланда. Ён працягнуў мне вялікі букет чырвона-жоўтых цюльпанаў, ад якіх пахла вясной». Паразуменне дасягаецца шляхам доўгіх роздумаў.

Апавяданне «У палоне інтэрнэту» прысвечана надзённай праблеме інтэрнэт-залежнасці маладога пакалення. Аўтар даводзіць, што важна своечасова спыніцца. Гераіня твора здолела гэта спасцігнуць, зразумеўшы, што «рэальнасць значна цікавейшая за любую віртуальнасць».

Таксама вылучаецца апавяданне «Патэлефануй». Аўтар псіхалагічна дакладна апісвае характар дзяўчынкі Жэнькі, умела перадае патаемныя зрухі душы, якая праходзіць праз першае каханне. Урэшце дзяўчынка ідзе на сустрэчу да хлопчыка і знаходзіць для яго патрэбныя словы (хлопчык патрапіў у дзіцячы дом).

І. Фамянкова закранае і глыбока трагічныя тэмы, як, напрыклад, сітуацыя на мяжы жыцця і смерці. У апавяданні «Для жыцця» пісьменніца апісвае вялікі душэўны боль, з якім змагацца няпроста. Але змагацца варта, варта шанаваць святасць жыцця і паважаць немінучасць смерці. Пісьменніца лічыць, што заўсёды знойдзецца чалавек, які верне веру і радасць, трэба толькі ўмець слухаць. Апавяданне можна назваць пратэстам супраць дзіцячага суіцыду; яно сцвярджае простую, але бясспрэчную ісціну: «Чалавек створаны для жыцця!»

На думку Томаса Карлайла, якога мы згадвалі напачатку, «пісьменнік — той жа святар». Натуральна, не ўсе людзі вернікі і не ўсе ўспрымаюць рэлігійнае павучанне. Але ў іншым сэнсе, адцягненым ад літаральнага ўяўлення пра абавязкі святара, пісьменнік робіць тое ж самае: звяртаецца да чалавека з ісцінай, загорнутай у мастацкую, часта займальную форму.

Творчасць Ірыны Фамянковай заклікае нас падтрымліваць адзін аднаго, дапамагаць, ратаваць і дараваць. У яе творах — прага дабрыні, святла, міру. Але галоўнае, што спасцігае чытач, гэта даўняя думка: каханне (любоў) — аснова жыцця.

**Вольга ТАРАСАВА**

# Жаночае ў амерыканскай прозе

**Адметнасць жаночага пісьма, жаночыя праблемы ў літаратуры, літаратура і развіццё феміністычных ідэй — гэтыя тэмы, здаецца, займаюць не самае галоўнае месца ў нашым літаратуразнаўстве. Але пералік даследчыкаў, якія працуюць у гэтым рэчышчы, можа складацца з дзясяткаў імёнаў: Святлана Калядка, Інга Воюш, Таццяна Кабржыцкая… Любоў Пярвушына — адзін з літаратуразнаўцаў, вартых абавязковай згадкі ў гэтым шэрагу.**

Дарэчы, навуковае выданне «Творчасць Эрыкі Джонг у кантэксце сучаснай літаратуры ЗША» (РИВШ, 2009) можна было б разглядзець не толькі ў рубрыцы «Крытыка», але і на старонцы «Суайчынніцы ў свеце».

Эрыка Джонг нарадзілася ў 1942 г. у Нью-Ёрку, пік папулярнасці яе творчасці прыпаў на 70 — 80-я гады: раман «Страх палёту» быў выдадзены накладам больш за 15 млн экзэмпляраў (паводле звестак на 1993 год). Бацька пісьменніцы быў сынам польскіх яўрэяў, маці — дачкой рускіх яўрэяў, і прадказальна, што жыццё каго-небудзь з продкаў магло быць звязана з Беларуссю. Сапраўды, дзед па бацьку нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, і гэты факт меў для Э. Джонг дастатковую значнасць. Паводле Л. Пярвушынай, з 1982 г. яна тройчы наведвала СССР — Маскву, Кіеў, Адэсу, Ленінград — і «заўсёды звярталася да культурнай спадчыны Усходняй Еўропы», што выявілася «ва ўспамінах пра славянскія традыцыі, казкі, песні, прыпаведсці, расказаныя дзедам, а таксама ў імкненні аўтара адкрыць для сябе літаратуру і культуру гэтага рэгіёна». Айседора — гераіня рамана «Парашуты і пацалункі» (1984) — імкнецца трапіць у Беларусь, каб знайсці месца жыцця свайкоў, «пошук нацыянальнай ідэнтычнасці звязаны з тэмай Усходняй Еўропы».

Ад уводзінаў і да перадапошніх старонак жыве спадзяванне, што даследчыца прааналізуе фрагменты рамана, прысвечаныя Беларусі, Расіі і Украіне: цікава, як амерыканка бачыць і ўяўляе славянскі свет, успрымае гісторыю гэтых краін, якія аспекты вылучае пры знаёмстве з імі, як супастаўляе амерыканскае і савецкае грамадства. На жаль, у азначаным даследаванні Л. Пярвушына не ставіла такіх задач (магчыма, яны засталіся на будучыню), але чаму б не прачытаць у арыгінале «Parachutes and kisses», так і не перакладзеныя на рускую, а тым больш на беларускую мову? У кнізе, прысвечанай творчасці Э. Джонг, і так багата пазнавальнага ды карыснага!

Першы раздзел распавядае пра асаблівасці сучаснай літаратуры ЗША, сярод якіх даследчыца адзначае эксперыментатарства, сацыяльную скіраванасць, актуальнасць такіх жанраў, як раман выхавання, раман старэння, гістарыяграфічны метараман. І, вядома, фемінізаванасць культуры 1960 — 1970-х гадоў: «кнігі, створаныя жанчынамі, карысталіся большай папулярнасцю, чым класічныя літаратурныя шэдэўры». Паводле Л. Пярвушынай, значным этапам станаўлення творчасці Э. Джонг было рашэнне змясціць у цэнтр творчасці жанчыну з яе ўнікальным вопытам і «звярнуцца да тэмы суб'ектыўнасці і ідэнтычнасці жанчыны як дачкі, маці, сяброўкі, жонкі, каханай, пісьменніцы, творчай асобы». Даследчыца аналізуе тэтралогію раманаў, аб'яднаных вобразам Айседоры Дункан, і адзначае, што для пісьменніцы істотнай з'яўлялася не толькі «жаночая тэма», але і — шырэй — выяўленне многіх сацыяльных праблем.

Асобна разглядаюцца эксперыментальныя раманы — у першую чаргу гістарыяграфічны метараман «Фэні», у якім Э. Джонг звяртаецца да інтэртэкстуальнасці і стылізацыі, выкарыстоўвае прыём пастышу, крытыкуе рэчаіснасць праз іронію і пародыю. Пікарэскны раман, падзеі якога адбываюцца ў XVII ст., напісаны самой гераіняй Фэні — і выяўляе супярэчнасці між высакароднымі ідэаламі эпохі Асветніцтва і тагачаснай рэальнасцю. Л. Пярвушына робіць выснову пра ўплыў постмадэрнізму, але ў адным з інтэрв'ю на пытанне «Што вы думаеце пра постмадэрнізм?» пісьменніца адказвае наступным чынам: «Постмадэрнізм — вельмі шматзначны тэрмін. Як бы мне хацелася ведаць усе рысы постмадэрнізму! Хутчэй за ўсё, ён звязаны з эксперыментамі з наратывам і мастацкім часам у літаратурных творах, якія праводзіцца сёння, у эпоху пасля Джэймса Джойса і Вірджыніі Вульф». Магчыма, гэтая недасведчанасць выяўляе большую цікавасць Э. Джонг да грамадскага жыцця, чым да літаратурнага працэсу, альбо сведчыць пра разуменне постмадэрнізму як вельмі складанай і разнабаковай з'явы. Увогуле, чатыры кароткія размовы з пісьменніцай з'яўляюцца выдатным дадаткам да навуковага даследавання, бо дазваляюць супаставіць інтэрпрэтацыю кніг Э. Джонг з яе ўласнымі думкамі наконт постмадэрнізму, фемінізму, свайго месца ў літаратурным жыцці.

Л. Пярвушына прысвячае аднолькавую ўвагу творам розных жанраў, вылучае галоўныя рысы ў біяграфіі пісьменніцы і літаратурным кантэксце яе творчасці. У даследаванні выкарыстоўваюцца такія паняцці сучаснага літаратуразнаўства, як інтэртэкст, дэканструкцыя, ідэнтычнасць і інш., раскрываецца значэнне аўтабіяграфізму ў мастацкай творчасці, выяўляецца ўзаемаўплыў развіцця феміністычнага руху і літаратуры ЗША. Навуковае выданне, прысвечанае амерыканскай пісьменніцы, дазваляе зразумець, што нашай прозе сёння прыкметна не хапае арыгінальных па мастацкай задуме твораў, у якіх даследаваліся б сацыяльныя праблемы і вострыя пытанні сучаснасці (зазначым, што сярэдні памер раманаў Э. Джонг — гэта трыста старонак). Няма ў нашай літаратуры адпаведнікаў гістарычнаму феміністычнаму метараману, у гэтым кантэксце даследчыца слушна згадвае адно драматургію С. Кавалёва. Цікава, у дачыненні да якой эпохі можна было б яго напісаць, якую гераіню абраць паводле нацыянальнай прыналежнасці і сацыяльнага статусу? Знаёмства з творчасцю замежных пісьменнікаў і развіццём іншых літаратур заўсёды пакідае падобныя пытанні, і добра, што дзякуючы беларускім даследчыкам пашырэнне далягляду адбываецца зноў і зноў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# 10 маленькіх відавочнасцей

**Калі людзі лічылі Зямлю плоскай, то не былі дурнямі — яны проста не ведалі пэўных рэчаў. Думаецца, у літаратуры адбываецца тое ж самае. Адны і цяпер упэўненыя, што белліт стаіць на чарапасе, якую трымаюць тры кіты — Купала, Колас і Багдановіч. Іншыя ўвогуле думаюць, што наша літаратура пляскатая, як блін, і нудная, як стэп. Але ж мы з вамі ведаем, што гэта не так.**

Як і даўніх людзей, пэўнага роду недасведчанасць прымушае розных аўтараў паўтараюць адны і тыя ж памылкі, якія нязменна сустракаюцца ў часопісных публікацыях, альманахах і розных зборніках.

Мне не заставалася нічога іншага, акрамя як стаць на некалькі гадзін Капітанам Відавочнасцю і распісаць асноўныя памылкі, аздобіўшы іх прыкладамі. Ніякіх імёнаў, ніякіх назваў кніг. Можаце лічыць гэта падагульненнем усёй той чытанкі, з якой мне давялося мець справу. Удакладнім: чытанкі не самай удалай.

Падзелім гэты досвед на дзве часткі — прозу і паэзію.

## ПАЭЗІЯ

**Рыфма**

Пра *сонца / бясконца* казалі не раз, і, відаць, так будзе цягнуцца да самога Страшнага Суда (хто ведае, быць можа, ён будзе мець літаратурны філіял?..). Прывядзём топ-дзясятку самых папулярных рыфм у сярэднестатыстычных беларускамоўных вершах:

*Сонца / бясконца*
*Дарог / парог*
*Неба / хлеба*
*Восень / просінь*
*Дзе я / надзея*
*Маці / хаце*
*Беларуссю / ганаруся*
*Каханне / расстанне*
*Садзе / лістападзе*
*Крыжы / імжы*

Натуральна, кожны чытач можа скласці свой рэйтынг, але, думаецца, збольшага яны супадуць.

З аднаго боку, гэта цудоўная калекцыя архетыпаў: дарога, крыж, хлеб, маці. З іншага — крах мастацва. Вершыкі з такімі рыфмамі ўспрымаюцца не інакш як бурымэ. І справа нават не ў тым, што адны і тыя ж рыфмы паўтараюцца з тэксту ў тэкст, а ў іх штучнасці. Паверце, ніхто не сумняваецца ў тым, што вы ганарыцеся сваёй Беларуссю і не адмовіцеся ад яе і пад прымусам, як не выклікае сумненняў і ваша любоў да хлеба і неба. Але адна справа — быць патрыётам ці проста душэўным чалавекам і зусім іншая — кепскім паэтам. На такіх рыф(м)ах разбіўся не адзін паэтычны карабель.

Што цікава — праз гэтую аднастайнасць пакутуюць не толькі чытачы і крытыкі, але і Бог. Як толькі яго не рыфмуюць!.. У пару яму ставяць і трывогу, і дарогу, і парог. Ён становіцца сведкам палымяных прызнанняў у любові да Радзімы і ў каханні да жанчыны/мужчыны. Ён вандруе з верша ў верш, міжволі становячыся своеасаблівым паэтычным рэкрутам. Хто ведае, можа, калі б яго меней торгалі за крысо, у свеце паменела б зла?..

Відавочнае рашэнне — адмовіцца ад рыфмы. Але тут узнікае іншая праблема…

**Не дужа белы верш**

Палка, вядома, мае два канцы.

Вершы ў рыфму? Фі. Гэта мінулае стагоддзе. А вось белы верш!.. О, гэта прыкмета вялікага інтэлекту. І пачынаем нараджаць шэдэўры кшталту

*цемра*
*ноч у вакно зазірнула*
*яна, як і я,*
*самотніца*

Гэты опус напісаны за 15 секунд, як кажуць, сходу. Іншыя пішуць гэтаксама і на поўным сур'ёзе спрабуюць выдаць атрыманае за паэзію. Чытач недасведчаны, для якога ўсякі чалавек, здольны гладка звязваць болей за тры словы, — геній, сапраўды будзе лічыць гэта за паэзію. І бяда ў тым, што такіх чытачоў — большасць. Так атрымліваецца, што пазбаўленыя самакрытычнасці аўтары дыскрэдытуюць самую паэзію, а гэта, як на мяне, недаравальна. За паэзію людзі гінулі — майце павагу.

Ні наяўнасць рыфмы, ні яе адсутнасць не гарантуюць прысутнасці ў тэксце паэзіі. Гэта толькі форма. Калі вы наліваеце вады ў рондаль, вада не ператворыцца ў булён. Гэта будзе ўсяго толькі рондаль, поўны вады. Здавалася б, відавочна, але…

**Русізмы**

Тут, здаецца, тлумачэнняў не трэба. Хіба ўдакладню, што трапляюцца яны не толькі ў «аднаслоўнай» форме, але і ў разгорнутай: перакладзеныя на беларускую фразеалагізмы, адвечнае «аб тым» замест «пра тое» і г. д. Зваротны бок — паланізмы і дыялектныя слоўцы, якія не заўсёды бываюць да месца. Спасылацца на Рыгора Барадуліна няма сэнсу, бо Барадулін — гэта Барадулін і яго мова — гэта яго мова. Мы ж вядзём гаворку пра тэксты, якія пішуцца на «сярэднестатыстычнай» беларускай мове.

**Коркавы метад**

Цудадзейная штука, якая шырока прымяняецца ў рыфмаваных вершах.

У паэта нараджаецца два радкі, а трэці не ідзе. Альбо ёсць страфа, але ў некаторых месцах не хапае слоў, якія траплялі б у рытмічны малюнак (гэта галоўнае, а сэнс як-небудзь перацерпіць). Што рабіць? Пачынаецца актыўны пошук. І вось нарэшце знаходзіцца корак патрэбнага памеру. Ура, таварышы! Верш гатовы.

А вось і не. Магчыма, для некага гэта стане адкрыццём, але кожнае такое слова, знойдзенае «пасля», прывітае штучна, як прышчэпка да дрэва, вытыркаецца, не жадае ўплятацца ў верш, хоць бы фармальна яно і падыходзіла. Тое ж самае з дапісанымі «пасля» радкамі. Добры чытач бачыць іх гэтак жа выразна, як калі б верш пісаўся ад рукі рознага колеру атрамантам.

Што тут рабіць, сказаць цяжка. Адны пакідаюць радкі і «думаюць вершы», кажучы словамі Алеся Пісьмянкова (вось у каго можна павучыцца арганічнасці, ды хіба гэтаму навучышся?). Іншыя нават не думаюць — проста складаюць рукапісы ў шуфляду, а потым, гадоў праз пяць, дзесяць ці ўвогуле як пашанцуе, дастаюць і дапісваюць. Паспешлівасць тут нічога не дасць. Па-першае, вы сапсуеце тыя добрыя радкі, што ўжо ёсць; па-другое, наўрад ці вернецеся да іх пазней, бо выраб гатовы і прададзены, усе ў захапленні, нашто лішні раз перайначваць?..

Але зусім блага, калі вершы толькі так і пішуцца. «Ага, Мікола надрукаваў санет. Дай-ка я напішу ронда!..» Як тут не прыгадаць паэта Нікіфара Ляпіс-Трубяцкога, які метадычна разносіў па розных рэдакцыях балады пра Гаўрылу. Сёння таксама шмат падобных балад, праўда, не пра Гаўрылу, а пра Беларусь-я-за-цябе-малюсь, пра мілагучную, мілую, родную мову, васількі ў жыце і жаўрука ў блакіце. Пра любоўныя драмы, над якімі заліўся б горкімі слязьмі і Шэкспір, казаць не будзем.

Прадчуваю сур'ёзныя папрокі: "Як?! Вы не шануеце Беларусь!», «Вы кпіце з любові да мовы!»

Тады пяройдзем да наступнага пункту.

**«Птушкі — дрозд ды гусь…»**

Калі ў вас сапраўды ўзніклі падобныя думкі, значыць, вы блытаеце мастацтва і патрыятызм. Высокая тэма не можа служыць вам абаронай ад крытыкі, наадварот — яна да вельмі і вельмі многага абавязвае. І пішучы верш кшталту

*Люблю цябе, мая краіна,*
*Мая святая Беларусь,*
*Тваю агністую рабіну,*
*Якой увечары малюсь —*

вы не працуеце на ўслаўленне гэтай самай Беларусі — вы выказваеце ўласную творчую нямогласць. Канстатуючы нешта — пачуццё, факт, памкненне, што заўгодна, — вы яшчэ не робіце гэтае нешта мастацтвам.

Зноў жа, калі вы пішаце верш пра родную мову, ужываючы стандартны набор слоў, які сустракаецца ўва ўсіх падобных тэкстах, вы не робіце галоўнага, што варта было б зрабіць, калі ўлічыць спецыфіку тэмы, — паказаць, на што мова здольная. Прывяду параўнанне (грубае, канечне, але ўсё ж такі). Калі вы скажаце: «Я люблю гліну!» — і злепіце крывы гаршчок, людзі грэбліва абыдуць яго бокам і нехта абавязкова падумае, што вінаватая гліна, а не вашыя няўмелыя рукі. Але варта вам зляпіць сапраўдны твор мастацтва — і ўсе зразумеюць, які ў гэтай гліны патэнцыял. Паўтаруся: прыклад грубы, і мова, канечне ж, не гліна, але прынцып той самы.

І на завяршэнне пра шматпакутныя вершы…

**Стылістыка**

Па-першае, трэба сказаць пра штампы. Нават Гамер, да якога было ўсяго дзевяць паэтаў, калі верыць Арцёму Кавалеўскаму (гэта жарт, калі што), не пісаў пра багіню Эос «рудая», але пісаў «златакудрая». Чаму ж сёння, калі пра васількі напісана тысячы тысяч разоў, вы так лёгка дазваляеце сабе эпітэт «сіні»?

Канечне, справа не ў васільках, а ў штампах успрыняцця, якія аўтары пераймаюць ад папярэднікаў, хоць для паэзіі гэта верная смерць. І не трэба называць механічнае паўтарэнне паэтычнай традыцыяй. У гэты даволі абстрактны тэрмін можна ўкласці шмат значэнняў, толькі не зводзіць яго да эпігонства.

Другое — уласна стылістычныя памылкі: шматлікія плеаназмы, якія з'яўляюцца наступствам затыкання дзірак у матэры верша (*але затое* ці *фатальны лёс*); недакладнае ўжыванне слоў («нас ахінае дзіўная нірвана» — нірвана не дым і не дрымота; увогуле, у вершы, з якога ўзяты радок, гэтая нірвана не да месца); змяшэнне стыляў, асабліва калі ўжываюцца словы грубыя, з заніжанай стылістычнай афарбоўкай (нават цытаваць такое не хочацца, але — «вунь скача агонь, як дэбіл» ды інш.

## ПРОЗА

**Рытм**

Неаднойчы даводзілася чуць ад аўтараў вершаў, што прозай яны «не займаюцца», бо вершы пісаць цяжэй. І калі вы таксама думаеце, што проза — гэта ўсё, што не ў рыфму і ў адзін радок, я мушу вам сказаць, што вы памыляецеся.

Для прозы, акрамя мастацкага бачання, умення дакладна выказвацца і будаваць сюжэт, патрэбна адчуванне рытму. Рытм, як на мяне, складае 60% стылю, калі не болей. І калі над працэнтамі можна спрачацца, то пра значнасць рытму як такога — не даводзіцца.

Іншых аўтараў чытаць немагчыма толькі таму, што ў іх, кажучы вобразна, пастаянна перабіваецца дыханне. Рывок улева, рывок управа, раптоўная паўза — і ўсё, кніга закрытая. Тут мастацкае пісьмо можна параўнаць з марафонскім бегам: каб паспяхова дайсці да канца, трэба мець цягавітасць і напрацаваную тэхніку. Апошняя, зрэшты патрэбная і на кароткіх дыстанцыях.

**Мараль**

Ніхто не любіць, калі яго павучаюць (падазраю, што аўтара гэтага артыкула таксама многія могуць узненавідзець). І, тым не менш, знаходзяцца такія празаікі, якія, нядрэнна распавёўшы гісторыю, псуюць уражанне адкрытай мараллю. Але ж навела не байка. Не трэба казаць чытачу: «Бачыш, што ён зрабіў? Гэта дрэнна. Не рабі так». Па-першае, чытач можа звярнуцца да вашага твора якраз каб адпачыць ад павучанняў. Па-другое, калі чытач кемлівы, ён сам усё зразумее, а як не, то і мараль не дапаможа. Толькі ўявіце, у што ператварыліся б «Запіскі Самсона Самасуя», калі б Андрэй Мрый стаў у ментарскую позу і сказаў: «Самасуй — кепскі чалавек, таму што…» Вось дзе была б катастрофа.

**Псеўданароднасць**

Ёсць яшчэ адна дрэнная звычка ў сярэднестатыстычных празаікаў — стылізацыя пад гутарковую мову, дзеля якой ужываюцца інверсія, памяншальна-ласкальныя суфіксы, ад якіх часам, зважайце, становіцца моташна, да ўсяго — вельмі грубае, неахайнае перайманне бытавых дыялогаў. Нават калі вы апісваеце шэры побыт, ён павінен быць пераасэнсаваны ў мастацкім святле, іначай атрымаецца сярэднявечны лубок (той, прынамсі, маляўнічы).

Вернемся да стылізацыі. Чытаючы ў соты раз, што «Жыла на вёсцы баба Жэня. Жыла адна, сыны і дочкі па гарадах раз'ехаліся і добра, калі на свята прыязджалі», усур'ёз пачынаеш думаць пра працу дворнікам; там, прынамсі, паветра свежае. Ствараецца ўражанне, што падобныя апавяданні адрасаваныя забітаму селяніну стагоддзя так XIX. І замест таго, каб клапаціцца пра паляпшэнне чытацкага густу, падобныя аўтары працягваюць падсоўваць ім стылізацыі, выкананыя вельмі слаба. Я ўсё ж не магу даўмецца: дзеля чаго? Няўжо гэтым можна прыцягнуць сучаснага чытача?..

**Сыры сюжэт**

Часта даводзіцца бачыць апавяданні пра трагічныя лёсы ці гераічныя ўчынкі падчас Вялікай Айчыннай вайны. З гонарам аўтар заяўляе, што гісторыя праўдзівая, і чакае, калі ўражаны чытач пачне пляскаць у ладкі. Але мне не хочацца, бо тут можна сказаць тое ж, што гаварылася пра высокія тэмы ў паэзіі: якой бы трагічнай гісторыя ні была, сама па сабе яна нічога не значыць — яе яшчэ трэба ўмець расказаць. Тое, што ў гіпатэтычнай бабы Валі няма ні мужа, ні дзяцей, ні грошай, не выцісне жаданую слязу. З голымі фактамі, калі ласка, у журналістыку. Франсуа Міле мог бы канстатаваць: французскім сялянам цяжка жывецца — і ўсе сказалі б «ага» і пайшлі па сваіх справах. Але ён напісаў «Анжэлюс», перад якім кожны спыняе крок…

**P. S.** Як бачыце, меней за ўсё хацелася некага пакрыўдзіць ці абразіць. Спадзяюся, што маленькія відавочнасці, на якія звярталася ўвага, прынясуць карысць вам, а калі так — то і нам.

**Анастасія ГРЫШЧУК**



Малюнак Алесі Ісы

Асоба



# Вартая быць першай

**У Азербайджане заўсёды былі і ёсць жанчыны, якія з'яўляюцца прыкладам для іншых, будуюць жыццё на грунце ідэй асветніцтва, дабрачыннасці і нацыянальна-духоўных каштоўнасцей. Яны зрабілі адметны ўнёсак у развіццё грамадства. Узорам для азербайджанскіх жанчын служыць Першая лэдзі Азербайджана, прэзідэнт Фонду Гейдара Аліева, пасол добрай волі ЮНЕСКА і ІСЕСКА, дэпутат Мілі Меджліса Мехрыбан Аліева.**

Цяжка нават пералічыць праблемы, якімі займаецца Першая лэдзі Азербайджана. Яна ўзяла пад асабістую апеку такія лёсавызначальныя праекты, як будаўніцтва сучасных, абсталяваных паводле сусветных стандартаў, школ, дзіцячых садоў і аб'ектаў культуры ва ўсіх рэгіёнах краіны, развіццё ўстаноў аховы здароўя, у прыватнасці тых, што апякуюць хворых дзяцей і інвалідаў.

Мехрыбан Аліева — увасабленне сапраўднай жанчыны: ніколі не адмовіцца пагутарыць з людзьмі, выслухаць просьбу кожнага, пагаварыць па душах з суайчыннікамі, якія апынуліся ў бядзе, аказаць ім канкрэтную дапамогу. Падтрымлівае яна і таленавітых дзеячаў культуры, якія ўсё часцей атрымліваюць магчымасць дэманстраваць сваё майстэрства на самых прэстыжных сцэнічных пляцоўках розных краін. Ці можа быць больш значным унёсак у павышэнне іміджу ды аўтарытэту Азербайджана на сусветным узроўні?

Як прэзідэнт Фонду Гейдара Аліева, Мехрыбан Аліева робіць вялікі ўнёсак у захаванне нацыянальных каштоўнасцей і развіццё нацыянальнага мастацтва.

Дзякуючы яе намаганням у цэнтрах культуры, найбуйнейшых тэатральных і канцэртных залах розных краін Еўропы выступаюць азербайджанскія майстры мастацтваў, выстаўляюцца работы мастакоў, дэманструюцца старажытныя і сучасныя ўзоры культурнай спадчыны. Праекты, што рэалізуюцца Фондам Гейдара Аліева ў розных галінах, заваявалі міжнародны аўтарытэт. Гэта моцна паспрыяла таму, што Азербайджан, як дзяржава з багатай культурай, старажытнай гісторыяй і традыцыямі талерантнасці, заняў адметнае месца ў сусветнай супольнасці.

Падчас замежных візітаў і сустрэч Мехрыбан Аліева прыцягвае ўвагу да нагорна-карабахскага канфлікту, як пасол добрай волі заклікае чалавецтва да дыялогу і ўзаемаразумення. Дзякуючы ўнёску ў міжрэлігійны і міжцывілізацыйны дыялог, шанаванню нацыянальна-духоўных каштоўнасцей Першая лэдзі і ў новым тысячагоддзі з'яўляецца абаронцай старажытнай спадчыны.

Заўсёды надаючы значнасць ролі моладзі, дзеячаў навукі і культуры ў дыялогу паміж цывілізацыямі, прэзідэнт Фонду Гейдара Аліева арганізоўвае ў Азербайджане міжнародныя канферэнцыі, форумы, саміты, сімпозіумы і фестывалі на гэтыя тэмы. Намаганнямі Фонду рэстаўраваныя Кафедральны сабор Страсбурга, гістарычныя і архітэктурныя помнікі ў іншых раёнах Францыі. На сродкі гэтай арганізацыі зроблена вялікая праца і ў Пакістане. Сёння Фонд Гейдара Аліева працуе не толькі ў Азербайджане, але і за яго межамі — у ЗША, Турцыі, Расіі, Румыніі.

Біяграфія Першай лэдзі Азербайджана пачыналася звычайна. Мехрыбан ханум, тады яшчэ не Аліева, а Пашаева, не была выпускніцай суперпрэстыжных еўрапейскіх ліцэяў і замежных універсітэтаў.

Нарадзілася ў Баку ў інтэлігентнай сям'і. Бацька — Арыф Мір Джалал аглу Пашаеў, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, рэктар Нацыянальнай акадэміі авіяцыі; маці — Аіда Насір гызы Імангуліева, спецыяліст у галіне арабскай літаратуры, вучоны-ўсходазнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар, была дырэктарам Інстытута ўсходазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук. Мехрыбан Аліева з залатым медалём скончыла сярэднюю школу, з чырвоным дыпломам — 1-ы Маскоўскі дзяржаўны медыцынскі інстытут імя М. Сечанава. Студэнткай у 1983 годзе выйшла замуж за Ільхама Аліева і стала членам сям'і Агульнанацыянальнага лідара азербайджанскага народа Гейдара Аліева, засвоіўшы многае з таго, што сфарміравала яе як асобу, якая актыўна займаецца грамадскай і дабрачыннай дзейнасцю.

Ужо ў 1995-м па ініцыятыве Мехрыбан Аліевай быў заснаваны дабрачынны Фонд «Сябры культуры Азербайджана», а следам за ім — часопіс «Азербайджан — Ірс», які публікуе на трох мовах (азербайджанскай, англійскай і рускай) унікальныя матэрыялы, што ў творчай форме прапагандуюць найстаражытнейшыя і сучасныя дасягненні азербайджанскай культуры ў краіне і асабліва за мяжой.

У 2002 годзе Мехрыбан Аліева ўзначаліла Федэрацыю гімнастыкі Азербайджана, якая атрымала прызнанне на міжнародным узроўні. З тых часоў, як 10 мая 2004-га з мэтай вывучэння багатай спадчыны Гейдара Аліева і выхавання новых пакаленняў у духу створаных ім ідэй нацыянальнай дзяржаўнасці быў заснаваны спецыяльны фонд, які ўзначаліла Мехрыбан Аліева, пералічыць зробленае гэтай структурай проста нерэальна.

Магчыма, па-сапраўднаму годна дзейнасць Мехрыбан ханум Аліевай ацэняць толькі праз шмат гадоў. Але ўжо сёння відавочна: большасць яе праектаў не проста скіравана ў будучыню — яны прызначаны і наступным пакаленням.

Думаецца, што сваімі справамі, любоўю да Азербайджана, шчырым стаўленнем да людзей і ўласнай місіі Мехрыбан ханум пацвердзіла, што шчыра служыць людзям і па праве вартая любові сваіх суайчыннікаў.

**Ісфандзіяр ВАГАБЗАДЭ,**
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі**

На паліцы

# Жыццё як выпрабаванне...

**Нечаканай падзеяй у выданні перакладной літаратуры ў Беларусі можна назваць з'яўленне кнігі Немата Келімбетава «Не хачу губляць надзею». У перакладзе на беларускую мову да чытача прыйшла аповесць-маналог чалавека, які ў выніку цяжкага захворвання і нейрахірургічнай аперацыі на доўгія гады аказаўся прыкутым да ложка. Але гэта не перашкодзіла Н. Келімбетаву займацца літаратурнай работай, навуковымі даследаваннямі.**

Аўтар аповесці адбыўся як вучоны, стаў акадэмікам Акадэміі гуманітарных навук Рэспублікі Казахстан, быў узнагароджаны званнем лаўрэата прэміі імя Культэгіна, званнем заслужанага дзеяча навукі Казахстана. Па працах доктара філалагічных навук Н. Келімбетава сёння вывучаюць гісторыю старажытнай казахскай літаратуры, казахскай нацыянальнай культуры.

А як мастак слова Немат Келімбетаў паставіў перад сабой задачу паказаць усё напружанне чалавечай душы, чалавечага сэрца, чалавечага розуму, калі выпрабаванні носяць асабліва драматычны характар. Галоўны герой кнігі — Ержан.

«Я хварэў і чакаў смерці, — чытаем з першай старонкі аповесці. — Я паміраў кожны дзень, але заставаўся ў жывых, каб зноў і зноў адчуць боль.

Часам мне падавалася, што гэты боль — адзінае пацвярджэнне майго існавання.

Я падаў у прорву адчаю і выкараскваўся, цьмяны агеньчык чалавечай любові вёў мяне, і я не ведаў, куды...

Я змагаўся і цярпеў паражэнне за паражэннем, надзея пакідала мяне, але я не здаваўся на мілласць мацнейшага.

Таму што мацней за мяне была толькі смерць...

У гэты сумны час побач са мною была мая жонка Куаныш, якая стала правобразам Гаухар у гэтай аповесці.

Гаухар, міласэрная Гаухар, ты не пакінула мяне, не адвярнулася ад мяне.

Гэты маналог я прысвячаю табе...»

Розныя героі праходзяць перад чытачом, па-рознаму паводзяць сябе блізкія тых, хто патрапіў у бяду. Але кожная старонка аповесці напоўнена маральнай, духоўнай узвышанасцю. Чым больш складаная сітуацыя абцугамі сквала персанажаў, якіх аўтар сустрэў у бальнічнай палаце, тым болей моцнымі паўстаюць яны ў барацьбе з драматычнымі і трагічнымі наваламі.

«Кожны чалавек валодае магутнай сілай», — так назваў сваю прадмову да кнігі акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, славуты нейрахірург Арнольд Смеяновіч. «Вучоны, літаратуразнаўца і пісьменнік, перакладчык і ў сваёй хваробе застаўся Вучоным з вялікай літары, — піша Арнольд Фёдаравіч. — Працягваючы пісаць свае навуковыя працы, даследчык зрабіў і надзвычай важную рэч. Кнігай «Не хачу губляць надзею» ён зазірнуў у сутнасць чалавечых характараў у час выключных выпрабаванняў. Празорлівасць, з якой аўтар узіраецца ў сваіх герояў, прымушае задумвацца над многімі рэчамі, уважваць вартасці жыцця». І далей: «Прызнаюся, я параіў бы кожнаму з тых пацыентаў, хто трапляе ў няпростую сітуацыю, перагарнуць старонкі шчырай споведзі Немата Келімбетава «Не хачу губляць надзею». Упэўнены: большасць з чытачоў паверыць у свае сілы, скажа сабе, што за жыццё можна і трэба змагацца. Жыццё — велізарнейшы дар. Чалавеку. Дык чаму мы павінны так лёгка развітвацца з ім?!.»

Кнігу Немата Келімбетава можна смела ставіць на адну палічку з творамі Мікалая Астроўскага, Уладзіслава Цітова. А таксама — з творам Уладзіміра Ліпскага пра франтавую медсястру Зінаіду Тусналобаву-Марчанка, якая вярнулася з вайны без рук і без ног. Між іншым у беларускім выданні аповесці-маналога Н. Келімбетава ёсць і вітальнае слова Уладзіміра Ліпскага. А яшчэ — верш азербайджанскага паэта Чынгіза Аліаглы «Ікар» (з прысвячэннем «Светлай памяці Немата Келімбетава»). «Нібы пчала да кветкі-лёсу, / Ты адляцеў у боскі вырай. / Ты даказаў, што смак палёту / Магчыма звядаць і бяскрылым».

Аповесць Н. Келімбетава «Не хачу губляць надзею» — не першы зварот Выдавецкага дома «Звязда» да казахскага мастацкага слова. Раней быў выдадзены зборнік выбранай паэзіі Абая па-беларуску. У «Полымі» друкаваліся вершы Алжаса Сулейменава. Былі і іншыя публікацыі.




*Келімбетаў, Н. Не хачу губляць надзею: аповесць-маналог / Немат Келімбетаў; пер. з казах. А. М. Карлюкевіча, А. М. Бадака. — Мінск: Звязда, 2014. — 192 с.*

**Павел АЛЬСОВЫ**

Кніжны свет
22 жніўня 2014 г.

*Унікальны праект*

# Сямейны альбом для Віцебска

**Выданне, пра якое сёння ідзе гаворка, прадстаўляе аднаго з пачынальнікаў мастацтва фатаграфіі, заснавальніка ўласнага фотаатэлье ў Віцебску і вынаходніка «імгненнага затвора», які выкарыстоўвалі стваральнікі фотатэхнікі цягам ста гадоў. Серыя «Кніжная лаўка Дома Шагала» не так даўно папоўнілася новым даследаваннем. Гэта праца дырэктара Музея Марка Шагала ў Віцебску Людмілы Хмяльніцкай «Сігізмунд Юркоўскі — фатограф з Віцебска». Яна выйшла ў сталічным выдавецтве «Чатыры чвэрці».**



*Сігізмунд Юркоўскі. Каля 1895 г.*
*Фота з калекцыі М. Праўдалюбавай.*

Да з'яўлення гэтай кнігі пра Сігізмунда Юркоўскага было вядома не так шмат. Людміла Хмяльніцкая піша, што ў савецкія часы яго імя было зусім забытае, толькі ў 1950-я пра вынаходніцтвы віцебскага майстра сталі пісаць у сваіх работах А. Сыроў і С. Марозаў. У канцы 1960-х некалькі артыкулаў напісаў журналіст і краязнаўца А. Падліпскі (дарэчы, адзін з іх быў апублікаваны ў ліпені 1968 года на старонках газеты «Літаратура і мастацтва»). А ў 1989 годзе ў часопісе «Нёман» выйшаў вялікі артыкул Аляксандра Дзітлова, прысвечаны піянерам айчыннай фатаграфіі. У іх ліку даследчык згадвае і Сігізмунда Юркоўскага.

Для таго каб падрабязна прасачыць няпростую лінію жыцця Сігізмунда Юркоўскага, аўтарцы давялося папрацаваць у архівах і бібліятэках Мінска і Санкт-Пецярбурга, наладзіць сувязь з установамі Польшчы і Швейцарыі. Дапамог і выпадак. У 2010 годзе на адным з інтэрнэт-сайтаў з'явілася падборка фотаздымкаў віцебскага майстра з сямейнага архіва Марыны Праўдалюбавай. Аказалася, што Сігізмунд Юркоўскі быў мужам сястры яе прабабулі. Уладальніца фотакалекцыі на той час не шмат ведала пра свайго знакамітага продка, таму ахвотна адгукнулася на просьбу беларускай даследчыцы даслаць матэрыялы і прадаставіла не толькі копіі фотаздымкаў, але і дакументы, якія беражліва захоўваюцца ў сямейным архіве.

Цяпер з даследавання Людмілы Хмяльніцкай нам вядома, што Сігізмунд Юркоўскі нарадзіўся ў 1833 годзе ў шляхецкай сям'і. Месца нараджэння невядомае, а першы горад, з якім звязана імя будучага майстра фатаграфіі, — Магілёў. Менавіта тут 11-гадовы Сігізмунд пачаў навучанне адразу ў другім класе мужчынскай гімназіі. Яшчэ ў дзяцінстве ён пачаў цікавіцца фатаграфіяй, якая ў той час толькі пачынала развівацца. Правучыўшыся ў Магілёве шэсць гадоў, Юркоўскі паступае ў Гімназію вышэйшых навук — ліцэй князя Безбародкі ў Ніжыне, што на Чарнігаўшчыне. Скончыўшы гэтую ўстанову, ён становіцца студэнтам Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, аднак з-за хваробы не можа працягнуць навучанне і паступае на службу канцылярскім чыноўнікам, а потым пісцом у Магілёў. Праз некалькі гадоў, ужо маючы сям'ю, Юркоўскі падае прашэнне аб звальненні па прычыне хваробы. А паколькі на той час ні ў яго, ні ў жонкі не было родавага маёнтка, то былы чыноўнік з выпускным атэстатам губернскага акцызнага ўпраўлення атрымлівае правы пражываць «ва ўсёй Расійскай імперыі».

Ён выбраў Віцебск. Людміла Хмяльніцкая лічыць, што ўжо на той час Сігізмунд Юркоўскі меў і вопыт вырабу фотаздымкаў, і ўласнае абсталяванне, бо ўжо ў верасні 1966 года ён падае прашэнне аб дазволе адкрыць фатаграфічную ўстанову. І вось тут пачынаецца гісторыя справы ўсяго яго жыцця. У той час у Віцебску мець сваё фотаатэлье лічылася ганаровай і прыбытковай справай. Але не кожны майстар вытрымліваў канкурэнцыю і мог пераадольваць усе цяжкасці і паспяхова весці бізнес. Таму фотамайстэрні праз некалькі гадоў пасля адкрыцця пераставалі прыносіць прыбытак і закрываліся. Але атэлье Сігізмунда Юркоўскага праіснавала амаль 35 гадоў і закрылася толькі пасля смерці майстра ў 1901 годзе. Магчыма, уся справа ў вынаходніцтве — тым самым «імгненным затворы», што дазваляў фіксаваць аб'екты ў руху, здымаць пейзажы і гарадскія вуліцы і будынкі. Многія з фотаздымкаў Юркоўскага сталі візітоўкай Віцебска: ракурсы, абраныя майстрам для фотаздымкаў, паўтараліся іншымі прыхільнікамі фатаграфіі, а здымкі ператвараліся ў паштоўкі.

Некаторыя работы фотамастака — партрэты і гарадскія пейзажы — можна пабачыць у ілюстраваным дадатку да кнігі. Арыгіналы здымкаў захоўваюцца ў музеях Беларусі, Расіі, Украіны, многіх прыватных калекцыях і архівах. Гэтая кніга — фактычна першае грунтоўнае даследаванне, прысвечанае Сігізмунду Юркоўскаму. Таму Людміла Хмяльніцкая спадзяецца, што пасля яе выхаду знойдуцца прамыя нашчадкі майстра (вядома, што ў фатографа было пяцёра дзяцей), а таксама асобы, якія пазнаюць на старых здымках сваіх продкаў. Пагартайце кнігу, магчыма і вы пабачыце знаёмы твар прадзядулі ці прабабулі, якія жылі ў Віцебску ў канцы XIX ст.

**Марына ВЕСЯЛУХА**







# Сустрэнем восень смехам

У жнівеньскім нумары «Вожыка» мы весела развітваемся з летам і — «Ідзём у школу!». Вучні вяртаюцца з канікулаў, садзяцца за ўрокі і заўважаюць, што «Нішто так не аб'ядноўвае настаўнікаў і вучняў, як званок на перапынак» (К. Карнялюк). Школьнай тэме прысвечана і вокладка часопіса, некаторыя нядбайныя бацькі могуць пазнаць сябе.

Арыгінальная антыалкагольная казка «Жылі-пілі...» А. Карасёвай напісана па матывах асартыменту вінна-гарэлачнага аддзела аднаго з айчынных магазінаў. Галоўныя дзеючыя асобы — камбат Пятровіч са сваяком Васілём Белым, да якога з-за мяжы прыехалі пагасціць родзічы. Чым скончылася застолле і ці будзе мець казка працяг, даведаюцца цвярозыя чытачы.

У фельетоне Н. Кульгавай «Мышыная валтузня» дзве мышкі-сяброўкі Мі-мі і Пі-пі сустрэліся на жытнёвым полі, каб пагаварыць пра сямейныя справы, ліхіх катоў і, вядома, разлікі на ўраджай. А таксама — пра кантралёраў, якія наведалі сельскія гаспадаркі Гродзеншчыны і выявілі там нямала недахопаў у падрыхтоўцы да жніва.

Таксама вас чакае знаёмства з дзяржынскімі гумарыстамі літаратурна-паэтычнага клуба «Выток». Л. Круглік, У. Шымановіч, Н. Лебядзеўская, Я. Доўнар, Р. Рэўтовіч і А. Анісовіч раскажуць пра гусака-плеткара, фанафабрыстага жука з Амерыкі, сітуацыю з аперацыяй, санеты для дзеда ды небяспечную зайздрасць.

Адметны і «Вернісаж» маладога мастака з г. Рэчыца А. Шчогалева. Ён стварае шмат шаржаў і гумарыстычных малюнкаў, прычым заўсёды сімпатызуе сваім персанажам, вымалёўваючы іх да драбніц.

Вершаваныя мініяцюры прымушаюць усміхнуцца і — задумацца: «— Настаўнік твой ішоў. Чаму/ «Дзень добры» не сказаў яму? —/ Спытаўся бацька у Міколы./ — Дык я ж ужо закончыў школу!» (М. Глеб). Як і афарызмы М. Пазнякова: «Паверце: верыць нікому нельга», «Жыць дрэнна мы навучыліся добра», «Навошта ставіць калектыў на калені, калі можна сесці яму на шыю?».

З міні-фельетонаў у рубрыках «Іголкатэрапія» і «Навіны з МУС: матай на вус...» чытачы даведаюцца пра граблі з самагонам і правільную эканомію, чым пагражаюць незаконныя таленты і «дзіцячыя» мары, а таксама ўзгадаюць булгакаўскага Воланда.

У «Кнігарні «Вожыка» прэзентуюцца кніжныя навінкі — гумарыстычныя зборнікі У. Шулякоўскага «Зуб мудрасці» і Б. Кавалерчыка «Аўцюкоўцы жартуюць».

Мастакі-карыкатурысты П. Козіч, А. Гуцол, А. Карповіч, А. Каршакевіч ды іншыя тым часам не спяць у шапку і дэманструюць, як выглядае сапраўдны составы апаратар, чым заканчваюцца фокусы з атрыманнем крэдыту па падробных дакументах, якім чынам афармляюцца гандлёвыя паліцы для халасцякоў і нават... Але гэта лепш убачыць.

З гісторыйкі Л. Баброўскай можна даведацца, «Навошта Жабе парасон?»; таксама можна ўволю наспявацца «Прыпевак з перцам для душы і сэрца» Л. Юшынай і прачытаць шмат іншых цікавых і вясёлых твораў.

З «Вожыкам» і ўвосень сумаваць не выпадае!

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

*Аблічча*

# Пад гербам Скарыны

**«Скарына Працу падарыў // у жніўні — Спасу…» Так я згадваў у вершы пражскую падзею 6 жніўня 1517 года, калі была выдрукавана першая скарынаўская кніга «Песни царя Давыда еже словуть Псалтыр». Вось такое супадзенне з народным Спасам — святам Праабражэння Гасподняга.**




*Фота Сяргея Панізніка*

*Пад скарынінскім гербам на плошчы Свабоды ў Віцебску. 1988 г.*

Гэтую кнігу Францішак, Скарынін сын з Полацка, лічыў пачаткам усякай добрай навукі. Яго Псалтыр называюць нават першым букваром, падручнікам для навучання грамаце. А галоўнае асветніцка-адукацыйнае прызначэнне мелі яго 23 кнігі Старога Запавету, якія пабачылі свет у Залатой Празе на працягу 1517 — 1519 гадоў.

У Львове, падчас вучобы на вайсковага журналіста, я быў запрошаны ў дом Анісsі Мацвееўны — удавы Іларыёна Свянціцкага, які сабраў для Львоўскага Нацыянальнага музея каля сотні беларускіх стaрадрукаў з 20 нашых даўніх друкарняў. У тым шчаслівым 1967 годзе мне было дазволена агледзець і сфатаграфаваць самыя каштоўныя рарытэты. Адзін пераздымак з таго скарбу ўражвае і сёння. Гэта вокладка выдання «Премудрости Божией книга». Дата «нараджэння» — 19.01.1518. Зачытаную кнігу нехта аднаўляў, перамалёўваў яе графічнае аблічча для далейшага выкарыстання. І хай сцвярджаюць, што скарынінскія выданні палілі як на захадзе, так і на ўсходзе, — у мяне стаіць у вачах зачытаная паспалітым людам кніга вечнай прамудрасці.

Прысутнасць Скарыны ў чыкагскім доме мяне ўзрушыла. Актывісты беларускай дыяспары ў ЗША Вера і Вітаўт Рамукі набылі карціну «Францішак Скарына» ў нью-ёркскага мастака Пятра Мірановіча. Сфатаграфаваў гэтую работу, калі, будучы ўдзельнікам XIX Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі і Канады, гасцяваў у прыязных Рамукоў (верасень 1999 г.). На жаль, наведаць самога Пятра Міpановіча, нараджанага непадалёк ад беларускай Друі, але на латгальскім беразе Дзвіны-Даўгавы, не давялося з хваробы мастака. Але яго творы ёсць і ў Мінску: пры нагодзе доктар Адам Мальдзіс пра гэта распавядзе.

У Выдавецкім доме «Звязда» рыхтуецца да выдання незвычайная кніга перакладаў на мовы свету паэтычнага выслоўя Ф. Скарыны з яго прадмовы да кнігі «Юдзіф» (9.02.1519), якое ў арыгінале пачынаецца словамі «…Понеже от прирождения…» Гэта гімн любові да роднай зямлі. Нездарма Ф. Скарыну называюць майстрам паэтычнага слова і нават тэарэтыкам патрыятызму.

Гэты ўзнёслы паэтычны роздум заканчваецца: «…тако ж и люди, и где зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають». Знаходзіў пераклады гэтага гімна ў букварах Анатоля Клышкі, у зборніку львавяніна Рамана Лубкіўскага… Але ўразілася ў арыгінальным тэксце скарыстанае Ф. Скарынам чэшскае слова «ласка». У перакладзе на беларускую мову ласка — любоў. І калі мяне міласцівы Бог з гэтаю мовай у свет пусціў, то я адважыўся свой верш на тэму ласкі-любові назваць «Малітвай Скарыны»:

*Во гэтак сама як дзічына*
*на дальні выбегла лужок,*
*а прызнае сваё лаўжо;*
*як птушачка: з-пад аблачыны*
*палі, разлогі аглядае,*
*а ведае сваё гняздо*
*ў траве высокай і густой;*
*як рыба: ў чарадзе гуляе,*
*плыве да берага чужога,*
*а чуе родныя віры;*
*як пчолы: ў полі да пары,*
*а ворага ля іх парога,*
*вулей баронячы, зваюць;*
*таксама й людзі: да зямлі,*
*дзе Бог ім сэрцы акрыліў, —*
*любоў вялікую мілуюць.*

Мне пашчасціла спрычыніцца да выдання кніг пра Ф. Скарыну. У 1990 г. быў укладальнікам (разам з В. Дышыневіч) «Падарожнай кніжкі Скарыны». У серыі «Школьная бібліятэка» ў 1994 г. выйшла ўкладзенае мною такое выданне: «Слаўны сын Беларусі: Кніга пра Скарыну».

Захаваліся ў мяне на фотаздымках аблічча ўдзельнікаў XIV Скарынаўскага свята кнігі (Полацк, 1987 г.), Скарынінскага свята кнігі (Віцебск, 1988 г.), Свята нацыянальнага пісьменства і друку (Полацк, 2003 г.). Каля помніка Скарыну, пад сімвалічным гербам, мы агучвалі словы павагі да подзвігу асветніка з Полацка. А 500-гадовы юбілей, што надыходзіць, стане вышынным Святам нацыянальнага пісьменства і друку!

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*Літадрасы*

# Цеплыня ашхабадскіх вуліц

**Патрапіўшы ў Туркменістан у жніўні 1985 года, я ўжо ў першыя месяцы свайго адкрыцця гарачай каракумскай старонкі пачаў шукаць адрасы агульнай беларуска-туркменскай памяці. «Геаграфія», ці, хутчэй, «гарадская тапаніміка», слядоў дружбы, якія сведчылі б пра блізкія да культур Беларусі і Туркменістана факты, складвалася, праўда, спакваля, не за адзін дзень. Яно і зразумела. Штосьці ўжо было згублена за смугою часін. Штосьці страчана незваротна…**

І ўсё ж агульная карціна вартая ўвагі. Пакуль што беларускія літаратурныя адрасы ў Ашхабадзе пазначаю штрыхамі, пазначаю для памяці. Магчыма, ужо для будучых пакаленняў даследчыкаў. У спадзяванні на тое, што з'явіцца ж некалі краязнаўчы даведнік з такой назвай — «Беларускія літаратурныя адрасы ў свеце». Такую думку неадноечы выказваў і доктар філалагічных навук прафесар Адам Мальдзіс.

Але ж паспрабуем пашукаць беларускія адрасы менавіта ў Ашхабадзе. І першы з іх — вуліца Махтумкулі, 5 (размова — пра гарадскую тапаніміку 1980 — пачатку 1990-х). Тут месціўся двухпавярховы будынак Саюза пісьменнікаў Туркменістана, рэдакцыі часопісаў «Совет эдебияты» ( «Савецкая літаратура») і «Ашхабад». Неаднойчы гасцямі і Саюза, і рэдакцый былі пісьменнікі з Беларусі: публіцыст Мікола Калінковіч (у 1979 — 1984 гг. ён жыў у Ашхабадзе), паэт Алесь Емяльянаў, паэт, журналіст Міхась Карпенка (у 1960 — 1990-я гг. жыў і працаваў у Краснаводску і Ташаузе). І Карпенка, і Калінковіч былі прынятыя ў Саюз пісьменнікаў СССР у Ашхабадзе, часта друкаваліся ў туркменскіх часопісах. Непадалёку ад вуліцы Махтумкулі — сквер, дзе ўсталяваны помнік беларускага скульптара В. Папова класіку туркменскай літаратуры Махтумкулі.

Недалёка ад Саюза пісьменнікаў знаходзіцца праспект Свабоды. Ці не ў самай сярэдзіне яго месціўся будынак Камітэта дзяржаўнай бяспекі Туркменскай ССР. У гэтай установе ў першай палове 1980-х працаваў ураджэнец Лунінеччыны пісьменнік Мікола Калінковіч. У Ашхабадзе выйшлі яго кнігі «Не обрывается земная связь», «Имя мое — Свобода», «Возвращение рассветной рани»…

Вернемся ў цэнтр горада. Вуліца Атабаева. У 1985 — 1988 гг. я жыў у доме нумар 32, корпус 1. Непадалёку ад Нацыянальнай бібліятэкі Туркменістана. На гэтай жа вуліцы месцілася кватэра беларускага празаіка, драматурга, публіцыста Васіля Ткачова, які жыў у Ашхабадзе ў 1973 — 1980 гг. Тут, у сталіцы Туркменістана, Васіль Юр'евіч працаваў над кнігай апавяданняў «Дзень у горадзе». Спярша В. Ткачоў служыў у рэдакцыі вайсковай газеты «За Родину», пасля працаваў рэдактарам у «Туркменгандальрэкламе».

Атабаева, 20. Ашхабадскі Дом друку. Тут месціліся і рэдакцыя газеты «Туркменская искра», якую рэдагаваў ураджэнец Беларусі публіцыст Васіль Слушнік (памёр у Ашхабадзе ў 1991 годзе). У «Туркменской искре» друкаваліся Мікола Калінковіч, Міхась Карпенка. У ашхабадскім Доме друку знаходзіліся і іншыя рэдакцыі — газеты «Эдебият ве сунгат» («Літаратура і мастацтва»), часопіса «Пионер» («Піянер»). У літаратурна-мастацкім штотыднёвіку, які адзін са сваіх разваротаў у 1987 годзе прысвяціў Беларусі, галоўным рэдактарам у сярэдзіне 1980-х працаваў публіцыст, літаратуразнаўца Какалы Бердыеў. Ён напісаў некалькі артыкулаў пра Янку Купалу. А ў самым пачатку 1960-х правёў падарожжа па Каракумскім канале разам з беларускім празаікам, публіцыстам, літаратуразнаўцам Алесем Адамовічам. Вынікам іх творчай паездкі стаў падарожны нарыс, надрукаваны ў маскоўскай «Дружбе народов», ашхабадскім «Совет эдебияты», мінскім «Полымі». І цяпер, праз паўвека і болей, нарыс падаецца цікавым мастацкім дакументам часу пераўтварэнняў. А яшчэ — дакументам літаратурнай дружбы, літаратурнага і культурнага ўзаемапранікнення розных нацыянальных памкненняў. Невыпадкова з'яўляюцца ў той даўняй публікацыі і фрагменты сустрэчы беларускага і туркменскага публіцыстаў з народным шахірам Ата Саліхам. Яго, сляпога выказніка дум і мар туркменаў сярэдзіны XX стагоддзя, і сёння добра памятаюць у Каракумскім краі.

Карпінская, 1. Мікраён прыватных сядзіб Ашхабада 1950 — 1980-х гадоў. Падворак, дзе жыў з вялікай сям'ёй народны паэт Туркменістана Керым Курбанняпесаў (1929 — 1988). У 1986 — 1988 гг. я даволі часта бываў у доме Керым-ага. Ведаю, што ў яго гасцяваў і беларускі празаік Алесь Жук. Як пазнака тае сустрэчы — кніга прозы беларускага пісьменніка з аўтографам, адрасаваным старэйшаму сябру. Керым Курбанняпесаў сустракаўся ў Ашхабадзе і з беларускім паэтам Алесем Емяльянавым. У 1987 годзе туркменскі шахір пераклаў на туркменскую мову «Паэму сораму і гневу» народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі. І хаця на той час ужо меўся рускі пераклад, надрукаваны ў «Нёмане», Керым-ага зрабіў сваё пераўвасабленне па падрадкоўніку (ведаю пра гэта дакладна, бо сам і рыхтаваў гэты падрадкоўнік). Керым Курбанняпесаў — аўтар і іншых перакладаў беларускай паэзіі: надрукаваны яны ў аўтарскай анталогіі «Букет дружбы».

Вуліца Хыдыра Дыр'яева, 5. Тут, у сваім доме, і цяпер жыве туркменскі празаік, паэт, дзіцячы пісьменнік Агагельды Аланазараў. У Беларусі ў розныя гады пабачылі свет тры яго дзіцячыя кнігі ў перакладзе на беларускую мову (найноўшая — «Вясёлая азбука» — у 2013 годзе, перакладчык — Віктар Гардзей). Агагельды Аланазараў сябраваў з Міхасём Карпенкам, Міколам Калінковічам, Валянцінам Лукшам. Пра кожнага з іх напісаў успаміны.

У розныя гады ў Ашхабадзе жылі мовазнаўца, ураджэнец Латгаліі, беларус Аляксандр Пацалуеўскі (загінуў у землятрусе 1948 года), празаік Барыс Мікуліч (пра яго жыццё пасля вяртання з ГУЛАГа — у другой частцы «Аповесці для сябе»), паэтэса Любоў Турбіна (нарадзілася ў Ашхабадзе ў 1942 годзе), ваенны публіцыст, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец Барысава Яўсей Вайнтруб. Гасцявалі ў Ашхабадзе беларускія пісьменнікі Рыгор Барадулін, Алег Лойка, Павел Марціновіч, Аркадзь Марціновіч, Любоў Філімонава, Алесь Бадак, Генадзь Пашкоў, Алена Масла, Еўдакія Лось, Віктар Шымук, Ігар Лапцёнак. І ў кожнага з іх — свае літаратурныя адрасы, свае сустрэчы, свае знаёмствы з Ашхабадам і Туркменістанам, свае памяткі сяброўства і дружбы. Мо з часам нават знойдзецца нехта ахвотны і з беларускіх твораў, прысвечаных Ашхабаду і Туркменістану, укладзе своеасаблівую анталогію пабрацімства?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Важнее книги нет

**В дальнем углу книжной полки, за объёмными томами энциклопедий, романов, детективов или сборников поэзии, хранится самая главная книга — азбука. Много лет назад, когда её хозяину было три-четыре года, она появилась в доме впервые — в красивой цветастой обложке, напоминающей накинутую на плечи шаль. Мудрая и весёлая, азбука стала проводником в страну слов, родной речи, а малыш со временем вырос, но не забыл свою «первую учительницу».**

Азбука — это не обязательно арбуз на первой странице и галерея ассоциативных картинок под каждой буквой. Да, классический вариант букваря, проверенный временем, подразумевает именно такую композицию. Но есть множество других его видов, более увлекательных, игровых, весёлых, которые могут послужить хорошим дополнением во время обучения. Ведь главное правило при запоминании слов — ребёнку ни в коем случае не должно быть скучно!

**«Азбука», вышедшая в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест»,** напоминает драгоценный сундучок, где хранятся стихи, сказки и удивительно милые картинки, глядя на которые даже серьёзным взрослым хочется вернуться в сказочную страну детства.




Открывая книгу, сталкиваешься взглядом с забавным существом розового цвета, без носа, шеи, но с большими глазами и ножками, сидящим на скамейке под зонтиком. Да ведь это же буква «А»! Оказывается, она заядлый садовод — выращивает астры и всё время ждёт дождя. У её подружки «В» другие заботы: нужно разобрать ворох писем. А вот «Д» ни о чём не печалится, потому что всё время сидит на диване, пьет чай и жуёт конфеты. Тридцать три персонажа букваря в стихотворении «Буквы-непоседы» отличаются неповторимыми характерами, оригинальной формой тела и изменчивым настроением. Ребёнок, представляющий буквы в виде живых созданий, а не простых закорючек на бумаге, обязательно начнёт относиться к ним с интересом и даже уважением.

Вторая часть азбуки содержит небольшие стихотворения для заучивания наизусть — они развивают речь и тренируют память. Герои стихотворных миниатюр, среди которых и красавицы белочки, и ракеты, покоряющие космос, одинаково полюбятся мальчикам и девочкам. Третья часть книги предназначена для чтения по слогам поучительных сказок «Пузырь, соломинка и лапать» и «Крылатый, мохнатый да масленый».

**«Азбука в загадках», вышедшая в издательстве «Русич»,** подтверждает теорию о том, что лучшая методика в освоении слов — игровая. На каждую букву здесь можно найти не только пару любопытных детских головоломок, но и стихотворения, характеризующие повадки домашних и диких зверушек.

**Книга «Читаем после букваря», вышедшая в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест»,** подойдёт детям постарше, тем, кто уже свободно, без подсказок мамы, может произносить и изображать в тетрадке всех «обитательниц»




алфавита. В первой части издания множество заданий. Например, нужно раскрасить гласные и согласные буквы в разные цвета, чтобы никогда их не путать, отгадать весёлые загадки, самостоятельно продолжить сюжет известных сказок, дописать слова в клеточки. Стихи великих русских поэтов Есенина, Пушкина, Тютчева, Некрасова, рассказы и сказки Ушинского, Толстого, Агинской сделают речь ребёнка богатой, чистой и красивой.

Как заинтересовать малыша книгой? Найти издание с большими и красивыми картинками! **«Первая книга после букваря», вышедшая в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест»,** в два раза больше обычных изданий. Начинается книга со стихов Толстого, Пушкина и Тютчева о временах года. Главная героиня — маленькая кукла, одетая в яркие наря-




ды, которая катается на качелях, пускает листья по воде и лепит снеговика. Поэтому этот раздел скорее понравится девочкам.

Следующая глава — опросник. Здесь можно проверить знания о мире фауны и видах транспортных средств. Благодаря книге, ребёнку легко объяснить, например, кто из пушистых зверьков живёт в лесу, а кого можно приручить, почему некоторые животные меняют шубку на зиму, а другие лазают по деревьям. Мальчишки же научатся отличать наземный, водный и воздушный транспорт — вдруг из них вырастут отважные пилоты или моряки?

В «Первой книге после букваря» не обошлось и без увлекательных загадок, а также настоящего «тренажёра» для юных писателей в разделах «Подбираем слово в рифму» и «Составляем из слов предложения». Тем, кто добрался до середины книги, правильно ответил на все вопросы, разгадал тайны и головоломки, разрешается составить свой первый настоящий рассказ! Разумеется, пользуясь подсказками-иллюстрациями.

Завершается издание сказкой про Колобка, текст которой разбит по слогам, что позволяет ребёнку с самого начала произносить слова правильно, умело расставлять ударения и грамотно общаться в будущем. «Первая книга после букваря», конечно, вместе со стараниями родителей, станет отличной предшкольной подготовкой для малыша и сформирует у него тягу к знаниям.

Хорошим дополнением к этой книге, особенно для чтения перед сном крохе, который устал за день от бесконечных букв и слов, может стать издание **«Мои первые сказки», вышедшее в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест».** Размер и формат страниц здесь




тоже впечатляет: персонажи сказочных историй изображены почти в реальную величину и, кажется, вот-вот выпрыгнут из бумаги и усядутся прямо в ладошку! Жизнь в книге кипит, как и в живой природе, только с изрядной долей фантастики и волшебства. Рыжая Белочка в цветастой юбке, норовистый Зайчик в модных синих штанах, розовощёкий Ёжик и другие звери в одном из рассказов варят суп. А одинокая Мышка-красавица, живущая в уютном домике на берегу реки, тем временем подыскивает себе жениха. Главной героиней последних трёх сказок выступает лиса, хитроумная обманщица, которая в итоге получает по заслугам и остаётся ни с чем. Доброта и честность, дружба и взаимовыручка всегда побеждают, что бы ни говорили о силе зла и жестокости в нашем мире. Вот какую бесценную мораль усвоит малыш из книги раз и на всю жизнь.

**Мария ВОЙТИК**




# Лапы, уши, хвост

Сказки о животных — одни из самых древних в любом фольклоре. В них повествуется о людях, их нравах и обычаях. Хитрецы и обманщики, к примеру, принимают облик лисы, грубые и простодушные — медведя, а жестокие, но глупые — волка. Мудрость, объединённая с юмором, придает сказочным историям обаяние и поучительность.

**«Сказки» Самуила Маршака, вышедшие в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест»,** рассказывают о поведении маленьких детей. Любой ребёнок узнает себя в одном из героев и либо задумается о своём непослушании, либо, наоборот, посчитает, что мама может им гордиться. Глупый мышонок, который отказывался засыпать, пока к нему не привели кошку, и медведь, который никак не мог научиться вежливости, — персонажи, благодаря которым малыш поймёт, как поступать не следует. А вот смелое ежиное семейство, которое перехитрило волков, наоборот, станет примером для подражания. Пять стихотворных историй, уместившихся в книге, — не так много, как хотелось бы. Поэтому продолжить знакомство с миром животных поможет книга другого замечательного детского писателя — Корнея Чуковского. Его **«Сказки», вышедшие в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест»,** — это волшебная смесь известного текста, лёгкого, забавного, всеми любимого, и колоритных иллюстраций Сергея Самсоненко. Взгляд художника добавляет знакомым персонажам — Мухе-Цокотухе, Мойдодыру, Айболиту — оригинальный оттенок, а глубокая и тёплая палитра, чёткая прорисовка каждого движения превращает героев в близких и добрых друзей, которые обязательно понравятся ребёнку.

**«Разноцветные истории» Владимира Сутеева, вышедшие в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест»,** напоминают детскую тетрадку с рисунками, которые помогут малышу поразмышлять. Вот на странице изображён домик с трубой, из которой к небу тянется полупрозрачный дымок, и красной черепичной крышей. Для чего и кому он нужен? Что в нём можно делать? «Топить печку и кашу варить», — считает Девочка из рассказа «Капризная кошка». Она показывает своей пушистой любимице, какое волшебство можно сотворить на бумаге, вооружившись разноцветными карандашами. На глазах у изумлённой кошки, впрочем, как и у малыша, читающего со взрослыми рассказ, вокруг здания появляется круглый золотистый забор, уютный сад, где можно гулять, пруд с рыбками, огород. В других повестях науку рисования осваивает Мышонок, решивший сгрызть Карандаш (а тот взял и нарисовал ему Кошку) и Петух, которого художник оставил нераскрашенным и обрёк на насмешки товарищей, пока добрые дети не вернули ему его красочные перья. Владимир Сутеев, писатель и художник, сделал свою книгу вдвойне полезной. «Разноцветные истории» подходят для обучения не только словам и предложениям — они помогут ребёнку управляться с красками и кисточками.

В книге **«Детки в клетке» Самуила Маршака, вышедшей в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест»,** — стихотворения о зверушках, причём экзотических — тех, которых не увидишь в родном лесу. Симпатичные создания на четырёх лапах выглядят как люди: одеты по последней моде, причёсаны, умыты, умеют разговаривать. Слон примеряет туфельки, тигрёнок стреляет из лука, совята в смешных чепчиках обедают возле мамы, а белые медведи плещутся в просторном водоёме. Книгу можно брать с собой на прогулку с ребёнком по зоопарку: светлые и благозвучные стихотворения объяснят малышу, что за звери притаились в клетках, где они жили раньше и какой у них характер. Дополняется издание азбукой в стихах и картинках «Про всё на свете», где тоже рассказывается о животных, только они привязаны к определённой букве алфавита. «Детки в клетке» подойдут для малышей, которые только начинают знакомиться с книгами.

**Мария ВОЙТИК**

*Нататкі рамантычнага маркетолага*



**Кацярына СІМАН**

# Лекі або атрута?

Словы паўсюль. Іх бывае недастакова, бывае — з лішкам. А бывае, толькі яны могуць выратаваць і становяцца адзінай валютай у краме жыцця. Мы прамаўляем ці занатоўваем словы, але галоўнае — чуем іх. Як у кожнай песні свае ноты, так і ў кожнага слова свая інтанацыя. І таму асаблівым шармам, на мой погляд, валодаюць аўдыякнігі. Хоць для многіх гукавыя аповесці — амаль загадка кшталту «І не коннік, і не пешы». Ці можна іх лічыць сапраўдным аналагам папяровай кнігі? Альбо гэта такая ж атрута для розуму, як і кароткі пераказ тэксту ў стылі «100 лепшых сачыненняў»?

Звернемся да гісторыі. У 1933 годзе на суд грамадскасці былі прадстаўлены аўдыязапісы легенд індыйскіх плямёнаў, зробленыя антраполагам Дж. Харынгтанам. Лічыцца, што гэта быў прататып аўдыякнігі. Наступным этапам аўдыяэвалюцыі стала з'ява, што адразу ж захапіла свет, — радыёспектаклі. Самыя лепшыя акцёры і рэжысёры прымалі ўдзел у запісе гэтых пастановак. Усё рабілася настолькі таленавіта і прафесійна, што часам здараліся кур'ёзы. Шырока вядомая гісторыя, калі ў першай палове ХХ ст. у ЗША па адным з радыёканалаў перадавалі спектакль па рамане Г. Уэлса «Вайна светаў». Многія паверылі, што краіна насамрэч атакаваная марсіянамі, узнікла паніка.

А ў СССР любоў да радыёспектакляў была непараўнальная. У час трансляцыі нават узровень злачыннасці зніжаўся. Памятаю, як, выконваючы хатнія заданні за сталом на кухні, паралельна слухала пра пакуты беднай-беднай Лізы, якой здрадзіў Эраст.

Але надышоў час, калі камерцыйныя рысы надалі і гэтай ідэі. Упершыню тое адбылося ў 1952 годзе, калі Дзілан Томас запісаў на касету сваю кнігу «Дзяцінства, Каляды, Уэльс».

Прайшло больш як 60 гадоў. Сёння спецыялісты сцвярджаюць, што справа выпуску аўдыякніг яшчэ больш няўдзячная за падрыхтоўку папяровых выданняў. У параўнанні з традыцыйнай выдавецкай дзейнасцю прыбытак ад продажу аўдыякніг надзвычай малы. Каб дасягнуць кропкі бясстратнасці, неабходна прадаць хаця б крыху больш як палову тыражу. Аднак інтэрнэт і свабоднае спампоўванне любой інфармацыі прывялі да таго, што прадаецца каля 15 працэнтаў тыражу аўдыякніг.

Можна было б правесці дэталёвы аналіз паказчыкаў рынку і знайсці як аптымістычныя, так і не зусім радасныя факты. Далей лагічна было б далучыць спецыялістаў, здольных выступіць з аргументамі «за» і «супраць» аўдыякніг як з'явы. Але гэта магло б ператварыцца ў доўгую спрэчку з правядзеннем міжнароднага сімпозіуму. Не будзем спрачацца. Толькі прыгадаем, што прыроду аўдыякнігі можна параўнаць з таямніцамі, якія перадаваліся вусным шляхам. А яшчэ ў аснове аўдыякніг ляжаць традыцыі сямейнага чытання, сёння, на жаль, страчаныя. Таму лепш казаць не пра прыбытковасць і зручнасць аўдыякніг, а пра ўтульнасць каля сямейнай лямпы. І тады, магчыма, аўдыякніга для дзяцей стане першай прыступкай у свет чытання.

# Вяртанне постмадэрну

**Сяргей Балахонаў з Гомеля працуе ў школе настаўнікам гісторыі. А піша прозу, вершы, перакладае тэксты папулярных песень на беларускую мову. Ён з'яўляецца аўтарам дзвюх кніг прозы — «Імя грушы» (2005) і «Зямля пад крыламі фенікса» (2012) і лічыцца адным з першых пісьменнікаў-постмадэрністаў у Беларусі.**



На сустрэчы з чытачамі, што не так даўно прайшла ў сталіцы, спадар Сяргей чытаў урыўкі з рамана і эсэ, дэкламаваў вершы, спяваў песні і нават зладзіў сабе адмысловы экзамен: агучваў свае вершаваныя тэксты з «білетаў», што выцягвалі прысутныя.

— Нейкія памкненні пісаць з'явіліся яшчэ ў юнацтве, да 2000 года, калі я быў студэнтам, — распавёў Сяргей Балахонаў. — Але на той момант я саромеўся ці мне не хапала імпэту, таму і не спрабаваў данесці да шырокага чытача тое, што віравала ў душы. Калі скончыў гістарычны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, мяне размеркавалі ў вёску Белае Балота Рэчыцкага раёна. Там міжволі стаў пісаць, і мае творы час ад часу пачалі з'яўляцца ў перыёдыцы. Пасля войска адчуў жаданне тварыць у больш буйных празаічных жанрах, бо раней гэта былі пераважна дзённікавыя запісы, эсэ ці вершы. Тады ж мяне ўпершыню назвалі пісьменнікам-постмадэрністам.

Як кажа сам творца, жадання стаць постмадэрністам у яго не было, гэта атрымалася аўтаматычна. Але пазней, больш падрабязна пазнаёміўшыся з адметнасцямі гэтага літаратурнага кірунку, Балахонаў пачаў падыгрываць свайму амплуа, ствараць тэксты ў гэтым рэчышчы.

Яго дэбютную кнігу «Імя грушы» склалі некалькі твораў. Адзін з іх — аднайменны псеўдараман, які распавядае пра падзеі з пункту гледжання трох гераінь. Яны падаюць розныя версіі таго, што здарылася ў Мінску ў сярэдзіне XIX ст.

— Ідэя такога твора ўзнікла яшчэ ў студэнцкія гады, калі я не думаў, што з гэтага нешта атрымаецца, — тлумачыць пісьменнік. — Мабыць, паўплывала гістарычная адукацыя. Калі працаваць з рознымі крыніцамі, то адна падзея з пункту гледжання розных людзей з неаднолькавым досведам ацэньваецца па-рознаму. Ды нават мова ў трох герояў гэтага рамана зусім непадобная. Гераіня першай часткі размаўляе па-беларуску з дамешкам адметнасцей стылю і лексікі Вацлава Ластоўскага, другой — з рысамі, уласцівымі тэкстам Адама Станкевіча, трэцяй — у стылістыцы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Ёсць у гэтай кнізе і пародыя на рыцарскі раман, але тут галоўнымі героямі з'яўляюцца не рыцары, але мяшчане.

Паралельна з апавяданнямі, што ўвайшлі ў першую кнігу, аўтар пісаў творы, якія сам лічыць містыфікацыямі, а крытыкі называюць «мак'юмэнтары». Гэта псеўдадакументальныя тэксты. Яны і склалі зборнік «Зямля пад крыламі фенікса». Некаторыя чытачы ўспрымаюць іх як сапраўдныя гістарычныя расповеды. Але варта быць уважлівымі і не давяраць Балахонаву адразу ж. Да прыкладу, варта сумнявацца ў тым, што беларусы адкрылі Амерыку, а Францыск Скарына адпачываў у Гомелі, што наша нацыя была створаная пчалярамі і іх чароўнымі пчоламі, якія разам з укусамі распаўсюджвалі беларускасць, а зубры — гэта ператвораныя цмокі. Таму аўтар папярэджвае, што на гэтае выданне, каб не блытацца ва ўспрыманні мінуўшчыны, лепш звярнуць увагу чытачу, абазнанаму ў гісторыі краю ці хаця б знаёмаму з ключавымі момантамі.

— Я заўсёды кажу, што постмадэрнізм увесь час вяртаецца, — разважае Сяргей Балахонаў. — Нават у Эпасе пра Гільгамеша ёсць прыкметы постмадэрну. Я лічу, што гэты напрамак з'явіўся ў той момант, калі чалавек навучыўся смяяцца.

Пісьменнік крыху шкадуе, што многія таленавітыя аўтары ў свой час з'ехалі з Гомеля, абраўшы месцам жыхарства больш перспектыўны і шматлюдны Мінск. Але сам развітвацца з родным горадам не збіраецца, падкрэсліваючы: «Лепш быць у Гомелі адметным пісьменнікам, чым у Мінску адным з многіх». Амаль цэзараўскае выказванне, з якім нельга не пагадзіцца, тым больш што сам Сяргей Балахонаў не скардзіцца на ўвагу з боку мясцовых і сталічных СМІ — была б нагода для публікацыі.

Дзве кнігі спадара Сяргея ўжо прынеслі яму сапраўдны поспех і чытацкае прызнанне. Спадзяёмся, што новы зборнік дасціпнай прозы ад аўтара з Гомеля нам чакаць нядоўга.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**




# Пяцікласнікі падкажуць

Алег Ждан — з тых пісьменнікаў, хто стварае літаратуру, якая абавязкова пакідае след у чалавечай свядомасці. Творы новай кнігі невялікія, але маюць значную сэнсавую нагрузку. На прыкладзе малых яшчэ дзяцей, вучняў пятых класаў, аўтар расказвае чытачу пра сучасныя праблемы чалавецтва.

Яскравыя параўнанні — адзін з галоўных метадаў Алега Аляксеевіча. Ён умее зацікавіць, канцэнтруе ўвагу на цэнтральнай лініі сюжэта і ў той жа час праз другарадныя падзеі даносіць сутнасць, галоўную думку твора. Гісторыі інтрыгуюць, і хочацца даведацца, што будзе далей, чым усё скончыцца... Творы запамінальныя, і перш за ўсё нечаканасцю развіцця сюжэту. Насычанасць аповедаў выразамі, характэрнымі для нашага часу, прыйдзецца даспадобы сучасным дзецям. Алег Ждан не забываецца і на вечныя тэмы: сяброўства, шчырасць, любоў да радзімы.

**Настасся ЖЫЛКО**

*Дзве думкі*

# У сшытак добрых спраў

**Наватар педагагічных ідэй Леў Выгоцкі адзначаў: «Ахапіць дзіця сістэмай сацыяльна-маральных сувязей у школе — гэта адзін бок выхавання, а другі — навучыць рабіць уласны выбар на аснове маральных прынцыпаў і норм жыцця».**

Такога дыдактычнага падыходу прытрымліваецца і празаік Алег Ждан, аўтар кнігі «Прыгоды трытэшак у Беларусі», што сёлета пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Праз гульню, таямніцу ён выхоўвае ў сваіх героях і чытачах пачуццё калектывізму.

Псіхалагічная сітуацыя ў аповесці «Самая міравая ідэя» становіцца тым агульным кантэкстам, на фоне якога ўчынкі герояў набываюць сэнс. Героі твора — Андрэй, Юра, Міхась, Аляксей, Лена — увасабляюць свае ідэалы ў вучобе, грамадскай рабоце і нават у спрэчках з бацькамі. Цікава распавядаецца, як школьнікі наведалі інтэрнат для дзяцей-інвалідаў. Вучні стараліся хто як мог: Міхась хадзіў на руках, Лена спявала, Юра паказваў фокусы.

Сюжэт другой аповесці — «Прыгоды трытэшак у Беларусі» (яна і дала назву кнізе) — фантастычны: у пушчу, каля Камсамольскага возера, прызямліліся іншапланецяне з планеты ТТТ-111. Госці прыляцелі сюды на аздараўленне: іх планета забруджана хіміяй. Каб не прыцягваць залішняй увагі, іншапланецяне прымаюць выгляд дзяцей — герояў твора. Аўтар назірае за паводзінамі персанажаў збоку, пазбягаючы маралізатарства і нуднага дыдактызму.

Кніга Алега Ждана — арганічны працяг напісанай ім год таму аповесці «Свята працягваецца».

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

# Узнёслая жаноцкасць… аднарогаў

**Нечаканая экспазіцыя адкрылася днямі ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. На выстаўцы Ганны Чапурной-Алейнік «Квінтэсенцыя» — коні-аднарогі ў каларытных жаночых строях стылю барока, падобныя да казачных прынцэс.**



*«Зорны карабель». Акрыл, 2014.*



*«З французскай паэзіі». Палімерны матэрыял, 2014.*

Лацінскі выраз *quinta essentia* («пятая сутнасць») у антычнай філасофіі абазначаў асноўны элемент нябесных целаў, які супрацьпастаўляўся стыхіям вады, зямлі, агню і паветра. У філасофіі ды алхіміі эпохі Сярэднявечча так называўся найтанчэйшы элемент, што нібыта складаў сутнасць рэчаў.

А яшчэ квінтэсенцыя — гэта таямнічы свет, населены фэнтэзійнымі персанажамі Ганны Чапурной-Алейнік, вобразы якіх тэматычна перагукаюцца з выявай Багдановічавага Пегаса — паэтычным увасабленнем перавагі духоўнага над матэрыяльным. Для мастачкі вобраз каня спалучае ў сабе чысціню, высакароднасць, цярплівасць, працалюбнасць. Прадстаўлены тут і яе жывапісныя палотны, напісаныя спецыяльна для выстаўкі («Страказа», «Пярсцёнак», «Зорны карабель»), — своеасаблівы фон лялечнай экспазіцыі.

Пачынала творца як графік і жывапісец. Інтэр'ернай лялькай яна займаецца апошнія паўтара года. Работы Ганны («Крохкія плечы маёй ракі», «Госця на радзіме», «З французскай паэзіі», «Цудоўная мяцежніца», «Мне ляцець — табе застацца»), створаныя з палімернага матэрыялу, адметныя не толькі лёгкасцю ліній ды рамантычнай аўрай, але і дакладнымі прапорцыямі, пільнай увагай аўтара да дэталей. Назвы твораў бярэ пераважна з песень і мастацкай літаратуры.

**Яна ЯВІЧ**

**Даведка «ЛіМа»**

Ганна Чапурная-Алейнік нарадзілася ў Брэсце. Скончыла мастацкую школу, Бабруйскі мастацкі каледж, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Удзел у выстаўках бярэ з 2004 г. Творы знаходзяцца ў фондах Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, зборы маскоўскай галерэі «Союз Творчество», прыватных калекцыях Польшчы, Македоніі, Германіі, Расіі.

# Альберт СКАРАХОД: «Я зрабіў гэта!»



**Мы з аднаго пакалення. Аднолькавае выхаванне, адны ідэалы, але вынікі розныя. Лідар па сутнасці, першаадкрывальнік у многіх кірунках, ён спалучае спорт з музыкай ці музыку са спортам, узводзячы кожнае на ўзровень высокага мастацтва. Рэкардсмен Кнігі рэкордаў Гінеса — 2006: у стойцы на галаве выконваў песню «Перавёрнутый мир», кампазітарам якой, зноў-такі, з'яўляецца сам. На сёння ў творчай скарбонцы Альберта Скарахода шмат перамог, а колькі яшчэ задум!..**

## СПОРТ

**— Чым вы зацікавіліся раней — спортам ці мастацтвам?**

— Мама расказвала, як у 10 гадоў я спяваў песні. Аднак спорт — першае, у што «запрогся» прафесійна. Спартыўная гімнастыка і акрабатыка са мной і па сёння.

**— З чаго для вас пачаўся спорт?**

— Бацькі спазніліся своечасова падаць заяву ў музычную школу, таму адвялі мяне, маленькага, худзенькага і хваравітага, у «Школу алімпійскага рэзерву» (дарэчы, там у свой час вучыліся І. Іванкоў, В. Шчэрба, П. Суд ды іншыя знакамітыя гімнасты). Як гімнаст ад Беларусі я нават удзельнічаў у цырымоніі адкрыцця «Алімпіяды — 80». Гімнастыка моцна дапамагла мне ў жыцці, адсюль і ўменне стаяць на галаве, але пры гэтым музыка жыла ўнутры заўсёды.

**— Як вы ацэньваеце адносіны сучаснага пакалення да спорту?**

— Раней моладзь да спорту ставілася лепш: не было, напрыклад, такой страшэннай антычалавечай зброі, як наркотык, не было камп'ютараў — усё гэта адцягвае ўвагу. Ды і духоўнасць сёння, на жаль, стала другаснай — моладзі прасцей пайсці на дыскатэку, чым у спартзалу.

**— Якія ўражанні засталіся ад першых музычных ці спартыўных перамог?**

— Ад гімнастыкі мала ўражанняў засталося, хаця і маю першы дарослы разрад, які атрымаў у дзесяць гадоў. А вось сапраўдная перамога, лічу, — III прэмія на конкурсе маладых выканаўцаў Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску ў 1988 годзе з групай «Дэльта». Мы тады атрымалі магчымасць выступаць з канцэртамі ў многіх замежных краінах: Германіі, Польшчы, Расіі і інш.

**— Яшчэ вы вядомы як чатырохразовы чэмпіён СССР і СНД па кік-боксінгу, бронзавы прызёр Кубка свету ў ЗША 1993 года, майстар спорту Міжнароднага класа…**

— …і яшчэ КМС па каратэ, заснавальнік у Беларусі першай хвалі брэйк-данса ў 1980 годзе… Дарэчы, спартыўным каратэ я стаў займацца яшчэ студэнтам БДІФК. Калі каратэ забаранілі (1984), разам з Наталляй Наважылавай сталі інструктарамі па аэробіцы. У 1990 годзе з'явілася дазвол на каратэ, таэквандо, кік-боксінг. Я заўсёды ішоў на хвалі новага. Самае галоўнае маё спаборніцтва — спаборніцтва з самім сабой.

**— Ці ёсць у вас ідэалы?**

— Заўсёды захапляўся гарманічнымі людзьмі: духоўнасць павінна спалучацца з іншымі талентамі. Так, я заўсёды захапляўся сцэнічным іміджам Бруса Лі, яго тэхнікай, хуткасцю, пластыкай. А таксамама гімнастам Гойка Міцічам, на фільмах з яго ўдзелам расло маё пакаленне.

**— Чым напоўнена ваша спартыўнае жыццё сёння?**

— Я з'яўляюся трэнерам дзіцячай зборнай па кік-боксінгу. Сярод маіх выхаванцаў ёсць чэмпіёны і прызёры. Увогуле, з дзецьмі працаваць цікава, хаця і няпроста. Яны капрызяць, часам несур'ёзна ставяцца да сваіх абавязкаў, але мая любоў да спорту і іх жаданне перамагаць даюць плён. Таксама існуе футбольная каманда зорак беларускай эстрады «АРТ—СТАРС», дзе я капітан і кіраўнік.

**— Ці ёсць перамогі ў гэтай каманды?**

— У 2013 годзе на Чэмпіянаце свету па футболе сярод артыстаў было 16 каманд, у сваёй падгрупе мы занялі другое месца, у агульным чэмпіянаце — сёмае. Мы бралі ўдзел і ў Міжнародным конкурсе, дзе давалі свой нацыянальны канцэрт, — былі адзначаны ў намінацыі «Лепшая песня». Таксама каманда «АРТ—СТАРС» у 2012 годзе заваявала кубак на спаборніцтвах па міні-футболе ў гонар 70-годдзя заслужанага трэнера СССР Э. Малафеева.

## МУЗЫКА

**— Як музыка прыйшла ў ваша жыццё?**

— Я не патрапіў у музычную школу па класе «фартэпіяна», аднак у нас быў сямейны ансамбль. Мой бацька — выдатны гітарыст, сястра Юля іграла на аргане, а я — на ўдарных. Далей была эпоха «Бітлз». У 16 год я папрасіў бацьку навучыць мяне іграць на гітары, той сказаў, што будзе цяжка: прыйдзецца пастаянна стрыгчы пазногці, з'явяцца мазалі. Праз стараннасць, руплівасць я зрабіў гэта!

**— Прадаўжальнікам чыіх традыцый лічыце сябе ў музыцы?**

— ВІА «Синяя птица», «Лейся, песня», «Поющие гитары», «Поющие сердца» і г. д. Новае — гэта даўно забытае старое. Песня можа набыць новае жыццё праз рэмікс, новую аранжыроўку.

**— Як нараджаюцца песні?**

— Душа спявае заўсёды! А песні раней пачыналіся з музыкі, з нейкай «трасянкі» слоў, каб аўтарам прасцей было трапіць у рытм. А ў добрым тэксце, у яго змесце і вобразах заўжды закладзена музыка.

**— Якіх аўтараў вашых песень узгадваеце з удзячнасцю і захапленнем?**

— Гэта прафесіяналы Павел Суд, Тацяна Шпартава і, канечне, Юрый Сапажкоў.

## АСОБА

**— Якія якасці найбольш цэніце ў людзях?**

— Надзейнасць, бо той, хто спыняецца на паўдарозе, здраджвае найперш сабе. Імкнуся мець зносіны з аднадумцамі. Цікавей і лягчэй, калі ёсць каманда і ўсе працуюць зладжана.

**— Калі можна было б адкруціць «машыну часу» назад — ці пайшлі б тым самым шляхам?**

— Так, ізноў пайшоў бы шляхам творчасці, бо лічу, што ён даецца звыш.

**— Творчыя планы ці мары, калі хочаце...**

— Шмат! Найперш — адзначыць восенню юбілей футбольнай каманды «АРТ-СТАРС», паехаць на пяты Чэмпіянат свету па футболе сярод артыстаў. Арганізаваць музычны праект, прысвечаны маім любімым артыстам — С. Драздову, А. Барыкіну, В. Андрыянаву ды інш. Адкрыць моладзевы спартыўна-культурны клуб, каб забраць дзяцей з вуліцы для спорту, музыкі і танцаў.

**Алена БАГАМОЛАВА,**
**Любоў ДАНІЛЕНКА**

# Прафесару ці аматару?

Супрацоўнікі «ЛіМ» перыядычна наведваюць культурныя падзеі рознага маштабу і рознай тэматыкі. Калі казаць пра літаратурныя сустрэчы, вернісажы, прэзентацыі новых кніг ды юбілейныя вечары, якія адбываюцца ў музеях і бібліятэках, то ўражанні ад іх могуць адрозніваццa кардынальна. Здараецца, мерапрыемства ўзбадзёрвае і натхняе, але часам яго даводзіцца пакідаць з гнятлівымі думкамі пра незапатрабаванасць беларускай культуры, літаратуры і творчасці класікаў. Са скрухай у голасе пра гэта разважаюць самі выступоўцы і арганізатары — што нядзіўна, калі напрыканцы сустрэчы зала застаецца амаль пустой.

Вядома, значнасць падзеі залежыць не толькі ад сур'ёзнасці тэмы ды аўтарытэту прамоўцаў, але і ад наяўнасці аўдыторыі — захопленай, уважлівай, цікаўнай. Паважаныя навукоўцы могуць і на ўніверсітэцкай кафедры пачытаць адзін аднаму ўрыўкі з апошніх даследаванняў, але гэта не прадугледжвае вялікай залы, рассылкі прэс-рэлізаў і прысутнасці журналістаў. Газеты пішуць пра культурныя падзеі, якія маюць пэўнае грамадскае значэнне, і прэзентацыя кнігі альбо юбілей класіка — гэта найперш магчымасць рэальнай камунікацыі паміж навуковай элітай і беларускім грамадствам, прадстаўленым у большасці выпадкаў школьнікамі ці студэнтамі. Бясспрэчна, у час мерапрыемства — у залежнасці ад яго задач і тэмы — трэба аддаць даніну памяці пісьменніку, акрэсліць працу над новым выданнем, шматбакова распавесці пра творчую дзейнасць сучаснага аўтара. Але галоўная мэта камунікатыўнага акта паміж недасведчанай аўдыторыяй і супольнасцю культурных дзеячаў ды навукоўцаў — сцвердзіць годнасць і актуальнасць беларускай культуры, вылучыць у ёй прывабнае і цікавае. Вельмі часта гэтая мэта парадаксальным чынам застаецца неўсвядомленай, і камунікацыйны акт завяршаецца фолам.

Напачатку аўдыторыя слухае, потым пачынае шумець і ўрэшце пакрысе разыходзіцца. Часам здаецца, што яна проста нікому не патрэбна — зрэшты, калі з павагі да выступоўцаў ці беларускіх мастакоў слова хто-небудзь і застанецца, гэта не будзе мець для яго практычнай карысці. Ці варта перад няўзброенай канспектамі публікай зачытваць старонкі з новай кнігі, падрабязна пераказваць біяграфію класіка альбо агучваць праблемны артыкул з навуковага зборніка? Наведвальнік, які жыве «на іншай хвалі», усё адно нічога не запомніць, а калегам і сябрам можна прапанаваць набыць кнігу альбо пераслаць тэкст публікацыі.

Відавочныя пралікі здараюцца і з боку арганізатараў. На юбілеях вядомых пісьменнікаў першымі перад аўдыторыяй з'яўляюцца навукоўцы, а праз гадзіну-дзве слова атрымліваюць сваякі ці сябры славутага творцы. Успаміны і жыццёвыя гісторыі гучаць перад паўпустой залай: нефілалагічная моладзь ужо паспела знікнуць, хаця яркія расповеды цікавых людзей успрымаліся б выдатна. Тут можна ўгледзець этыкетны момант: сапраўды, шаноўныя літаратуразнаўцы варты таго, каб атрымаць слова першымі, але хіба складана падзяліць сустрэчу на дзве часткі і ў першай палове мерапрыемства прадставіць тое, што прывабіць любога наведвальніка? Зрэшты, на літаратурны вечар можна запрасіць гісторыка, псіхолага, сацыёлага, культуролага: кароткія паведамленні, якія маюць дачыненне не толькі да творчасці пісьменніка, але і да нашага мінулага альбо ўніверсальных праблем, будуць успрымацца лягчэй, чым зацягнутыя выступленні прадстаўнікоў аднай навуковай спецыяльнасці.

Да культурных мерапрыемстваў супрацоўнікі мінскіх бібліятэк заўсёды рыхтуюць тэматычную кніжную выстаўку і мультымедыйную прэзентацыю, што стварае адмысловую атмасферу і забяспечвае галоўнымі ведамі па тэме. Праўда, фармат мерапрыемстваў можа быць больш разнастайным: з нагоды літаратурнага юбілею можна зладзіць і гульню-падарожжа, і кніжную выстаўку-дыялог — цікавыя ідэі можна знайсці ў інтэрнэце! Парадаў па распрацоўцы ўдалай канцэпцыі мерапрыемства таксама нямала, і беларуская культура заслугоўвае не менш яркай прэзентацыі, чым новая мадэль BMW ці ноўтбука. Інтрыга, эмоцыі, «уключэнне» госця ў запланаваныя падзеі, распрацоўка ідэі і стылістыкі мерапрыемства —над гэтымі пунктамі ў час падрыхтоўкі варта задумацца і дырэктару фірмы, і супрацоўніку бібліятэкі, і школьнаму завучу.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# ...без «самагубстваў»


Фота Аляксандра Ватніка

**Уявім сітуацыю: ад імя бібліятэкі, універсітэта, выдавецтва ці творчага саюза вас запрашаюць на літаратурны вечар, прысвечаны юбілею Янкі Купалы. Вечар праводзіцца для школьнікаў старэйшых класаў. Разам з Ірынай Таяноўскай, загадчыкам кафедры рыторыкі і методыкі выкладання мовы і літаратуры БДУ, пракаментуем падрыхтоўку да вечарыны і ўдзел у ёй.**

## ВЫСВЕТЛІЦЬ ЗАГАДЗЯ!

Праз магічнае святло задумы вызначаецца агульная адметнасць сцэнаграфіі мерапрыемства, мэта і задачы яго правядзення, колькасць і парадак дзеянняў іншых запрошаных удзельнікаў, унутраная сувязь і логіка развіцця стрыжнёвых ідэй. Бо кожная такая падзея — своеасаблівая, суладная сімфанічная музыка, якая нараджаецца намаганнямі асобных майстроў, асобных яе выканаўцаў.

Для пачатку абавязкова даведваемся пра слухацкую аўдыторыю (тут прагназуюцца хістанні, роскід у колькасці прысутных), ступень яе падрыхтаванасці і зацікаўленасці, магчымай актыўнасці, суадносіны юнакоў і дзяўчат, «фізікаў» і «лірыкаў» — каб зразумець: мове сціплай стрыманасці ці мове адкрытых эмацыйных рухаў трэба аддаваць перавагу? Як далучыць слухачоў да ўнутранага дыялогу?

Спрабуем абмеркаваць з арганізатарамі афармленне вечарыны (магчыма, будуць дарэчнымі плакаты-афарызмы; галерэя мастацкіх ілюстрацый; урачысты выпуск насценнай газеты; выстава творчых спроб, яскравых і кранальных малюнкаў самых вучняў). Мы ствараем належную атмасферу — атмасфера, у сваю чаргу, незаўважна стварае ўсё астатняе.

## ПАДРЫХТОЎКА ДА ВЫСТУПЛЕННЯ

Адштурхоўвацца трэба ад вызначаных, як след прадуманых і прачулых ключавых слоў і ідэй, на якія, нібыта пацеркі на нітку караляў, нанізваюцца доказы і цікавыя падрабязнасці. Пажадана спалучаць грунтоўныя, прызнаныя крыніцы з найноўшымі матэрыяламі (па магчымасці — праблемна-дыскусійнымі) і абавязкова «прапускаць» звесткі і меркаванні праз уласны розум.

Цікавымі для слухачоў бываюць асабістыя ўражанні прамоўцы, яго ўспаміны-прызнанні пра ўласнае бачанне творчасці пісьменніка. Можна звярнуцца да паказальнага эпізоду з жыццяпісу, выкарыстаць прыём кампазіцыйнай інверсіі, перастаноўкі ў выкладзе. Каб пачаць альбо завяршыць выступленне, выдатна прыдадуцца цытаты (тыя ж хрэстаматыйна-адточаныя: «Песень дар — агонь душы і сэрца жар»; «Слоў не крышыць ні век, ні тапор»).

Заўсёды цікавым будзе выступленне чалавека неардынарнага, «самазробленага» (self-made) у сэнсе шматгадовай і ўпартай працы над сабою. Такія людзі адмыслова валодаюць словам дзякуючы акумуляванаму духоўнаму багаццю, эрудыцыі, творчым здольнасцям. Бо маўленчы стыль — гэта пячатка творчай індывідуальнасці асобы. Адзначым, што рытарычная культура, майстэрства і мастацтва слова, валоданне аўдыторыяй — прыкмета прафесійнасці філолага (менавіта такімі з'яўляюцца выкладчыкі нашай кафедры — а студэнты імкнуцца стаць добрымі выступоўцамі праз удзел у паэтычным гуртку «Альтанка»).

## МЭТЫ І ТЭМЫ

Вызначаныя мэты павінны натхняць прамоўцу, абуджаць жаданне падзяліцца думкамі і ўражаннямі, душэўным імпэтам. Тэарэтычна мэты звяртання да юнацкай аўдыторыі могуць быць інфармацыйнымі, натхняльнымі, асветніцкімі, развіццёвымі, выхаваўчымі.

Дарэчы, у беларускай мове словы мэта і тэма перагукаюцца як у шарадзе-анаграме і нібы падказваюць шлях… Варта расказваць слухачам пра тое, што рэзануе ў душы, пра што хацелася б распавесці ў нязмушанай сяброўскай гаворцы. У класіку трэба разгледзець нашага сучасніка, адвечнага спадарожніка.

## АЛЬТЭРНАТЫВЫ СТАНДАРТНАЙ ПРАДМОВЕ

Асабліва высокі творчы патэнцыял маюць выступленні з элементамі пачатковай інсцэнізацыі жыццёвых і літаратурных сюжэтаў, уяўнага інтэрв'ю ці падарожжа на «машыне часу», адкрытага дыялогу і дыскусій са слухачамі… Гучыць запрашэнне заходзіць — і раптам расхінаюцца дзверы для асноўнага персанажа біяграфічнага выкладу, у якога на імгненне пераўвасабляецца моўца. Пералік інтрыгуючых думкава-слоўных ходаў можна доўжыць і доўжыць, у залежнасці ад нашай дасведчанасці, творчай фантазіі і артыстычных здольнасцей.

## ПАЗБЕГНУЦЬ СЕДАТЫЎНАГА ЭФЕКТУ!

«Самагубным» лічыцца пачатак, калі прамоўца дэманструе слухачам сваю няўпэўненасць, нервознасць, некампетэнтнасць. Разам з тым аўдыторыю адштурхоўвае прамое назідальнае павучанне, якое можа ўтварыць паміж моўцам і слухачамі «дыстанцыю вялізнага памеру». Не прыцягне слухацкіх сэрцаў і сімпатый высакамернасць, пачуццё перавагі над публікай.

Прызнанае засыпляльнае дзеянне мае так званы інтанацыйны манатон, механічная аднастайнасць танальных контураў у сказах. Варта загадзя адрэпеціраваць выразнае чытанне літаратурных урыўкаў у адпаведнасці з галоўнымі сэнсавымі і пачуццёва-псіхалагічнымі паўзамі і акцэнтамі. Вызначальнае ўздзеянне на гучанне прамовы мае яе сінтаксічны лад, уменне камунікатыўна апраўдана разнастайваць, чаргаваць мэтавыя ўстаноўкі суседніх сказаў (паведамленні, пытанні, просьбы, заклікі, захапленні, падкрэсліванні і г. д.).

Вельмі істотна, на маю думку, сканцэнтравацца не на знешнім эфекце падзеі, не на гіпнатызацыі «няўрымслівай юнацкай увагі» штучнымі трукамі і сродкамі, мазаікай арыгінальных, нечаканых экзатычных прыёмаў, а на ўнутранай сутнасці таго, што змогуць адкрыць для сябе слухачы.

## НАСТРОЙ ПАД КАНТРОЛЕМ

Класічная тэорыя прамоўніцтва вучыць уважліваму назіранню за паводзінамі аўдыторыі і яе пластычнымі сігналамі. Вопытны прамоўца мае пашыраны сектар агляду — да 45 градусаў — на флангі-бакі памяшкання. Вядома, што «адкрытыя» позы і жэсты, ківанне, жывы позірк сведчаць пра станоўчы настрой і ўвагу. Адхіленая пастава, галава на руцэ, пустыя вочы выяўляюць, што аўдыторыя ўжо пачала сумаваць і нудзіцца.

Глытком свежасці для прытупленай увагі можа быць пераход да дыялогу ці прапановы сумеснай дзейнасці, вылучэнне здагадак і прагнозаў, займальныя расповеды, завостраныя перабольшанні і экспрэсія, пытальна-адказавая пабудова маўлення, а таксама любыя адваротныя змены ў гучанні і тэмпе голасу. Зразумела, каб гнутка кантраляваць увагу і настрой аўдыторыі, няма адзінага рэцэпту-панацэі. Затое ёсць стары, добры «сакрэт рэзервовых ведаў і матэрыялу», калі кожная прамова — тое, да чаго выступоўца, кажучы парадаксальна, рыхтуецца на працягу ўсяго жыцця.

## ЗВЯРТАЕМ УВАГУ

Увага публікі сведчыць пра тое, што ў аўдыторыі створана энергетычная еднасць ці нават адзінства сінергетычнае, калі духоўная моц і натхненне ўдзельнікаў шматкроць узнімаюцца разам. Эфект можа дасягацца ўдалым дакрананнем да струн эмацыйнага суперажывання, уменнем схіліць пытаннем да роздуму, зваротам да супольнага жыццёвага вопыту альбо займальных акалічнасцей-падзей, кідкай дэталлю, дарэчным лірызмам ці гумарам, ад якога аўдыторыя будзе, як кажуць студэнты, «на хвалі пазітыву».

Зрэшты, у паводзінах слухачоў таксама бачым знешняе люстэрка ўнутранай павагі да іншых, а разам з тым — і да саміх сябе!

Сёння для падтрымання ўвагі аўдыторыі існуе і калейдаскоп тэхнічных магчымасцей, перш за ўсё — рэсурсы мультымедыя. Галоўнае, каб яны не ператвараліся з сяброў у здрадлівых, вераломных ворагаў. Таму неабходна своечасова правяраць абсталяванне, рабіць разборлівыя надпісы і тлумачэнні, з густам распрацоўваць дызайн прэзентацый.

## ЯК НЕ СТРАЦІЦЬ СЛУХАЧОЎ

Калі напрыканцы сустрэчы зала застаецца амаль пустой, гэта, верагодна, сведчыць пра матывацыйна-мэтавы пралік арганізатараў. Магчыма, не той «фармат» падзеі альбо прымат інфармацыйнасці перад відовішчнасцю ці, наадварот, недахоп канкрэтных звестак. Не пажадана даводзіць справу да «красамоўных уцёкаў»! А для гэтага — імкнуцца разумець сітуацыю, падтрымліваць «зваротную сувязь» падчас мерапрыемства, не страчваць зрокавага кантакту з аўдыторыяй (не спыняць «размовы вачыма») і своечасова рэагаваць на праявы стомы, крызісу ўвагі. У гэтым выпадку варта звяртацца да загадзя падрыхтаваных «выратавальных» фактаў, падрабязнасцей, прапаноўваць задачы сумеснай мысляздзейнасці. У выбітнага гісторыка Ключэўскага быў запаветны сшытак, адкуль ён уражваў студэнтаў, напрыклад, «жартам нумар 47».

Калі ёсць магчымасць, трэба загадзя «ісці ў народ»: размаўляць з будучымі слухачамі, цікавіцца, «чым яны жывуць», пра што непакояцца, аб чым мараць. Падчас самой падзеі — звяртацца да іх з добразычлівасцю і шчырасцю, як да даўніх, добрых знаёмых. І, дайце веры, у такім выпадку вы абавязкова знойдзеце сярод аўдыторыі новых надзейных сяброў і аднадумцаў!

**Ірына ТАЯНОЎСКАЯ**

# Галоўнае — творча думаць!

**У працяг тэмы прапануем чытачам размову з супрацоўнікамі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы — дырэктарам Аленай Ляшковіч і загадчыкам культурна-адукацыйнага аддзела Вольгай Пархімовіч. Іх мерапрыемствы звычайна праходзяць паспяхова — і добры арганізацыйны вопыт мае быць карысным для іншых!**


Фота Алесі Камоцкага

**— У Купалавым доме праходзяць вельмі розныя мерапрыемствы. Як бы вы акрэслілі іх тэматыку?**

**Алёна Ляшковіч:** — Большасць нашых мерапрыемстваў звязана з Янкам Купалам, яго творчасцю, жыццём, акружэннем. Часта мы выкарыстоўваем міждысцыплінарны падыход: напрыклад, праводзім мастацкія выстаўкі. Але заўсёды імкнёмся, каб яны называліся словамі з вершаў Янкі Купалы — і знаходзім назву для самых дзіўных праектаў! Была ў нас выстаўка фатографа-падарожніка Сяргея Мілюхіна (Сіндбада-Марахода), які вандраваў па Афрыцы і прывёз адтуль фотаздымкі. Хіба ёсць у Купалы нешта пра Афрыку? Мы ж знайшлі такія радкі: «На нашым хітрым свеце ўсяляк жыве народ». Яшчэ адно правіла: на адкрыцці выставак заўсёды гучаць вершы Купалы, альбо песні на яго словы.

**— На вашых імпрэзах заўвычай збіраецца шмат людзей. Каго можна аднесці да галоўнага кола наведвальнікаў?**

**Вольга Пархімовіч:** — Тут вельмі важна не засяроджвацца толькі на школьнай аўдыторыі, бо ёй часам цяжкавата і ранавата ўспрымаць тэмы, якія прадстаўляе музей. І, на жаль, мы пакуль выкарыстоўваем не ўсе магчымасці, каб запрашаць людзей. Можна ж звяртацца ў арганізацыі, прафсаюзныя камітэты, вайсковыя часткі... Але супрацоўніцтва павінна быць двухбаковым — да нас таксама могуць звярнуцца, могуць папрасіць прыехаць ва ўстанову, каб правесці мерапрыемства, паказаць і расказаць штосьці цікавае. Мы пагаджаемся, хаця часцей за ўсё гэта адбываецца на дабрачыннай аснове, у выходны дзень. Але яны падтрымліваюць нас, мы — іх, і ў выніку партнёрскія адносіны становяцца сяброўскімі. Мы сябруем з многімі арганізацыямі, і нам гэта вельмі прыемна. Так, калі мы праводзілі маштабную гульню «У пошуках папараць-кветкі», між удзельнікаў было шмат карпаратыўных каманд: «АНЕГА», «МОДУМ», «ПАТЭЛА» ды інш. Нядаўна адбылася цікавая сітуацыя: жанчына выпадкова завітала да нас з дзіцем, калі ладзіліся «Калядкі ў Купалавым доме», потым наведала некалькі іншых мерапрыемстваў і цяпер просіць зладзіць дзень народзінаў сваёй дачкі ў музеі. Такой практыкі раней не было, але ўжо распрацоўваецца сцэнарый свята! Мы гатовыя да далейшага развіцця, хаця штат супрацоўнікаў невялікі і мы вельмі загружаны: 120 тысяч наведвальнікаў за год для музея даволі шмат.

**А. Л.:** — Натуральна, у залежнасці ад тэматыкі мерапрыемства мы запрашаем студэнтаў пэўных спецыяльнасцей. Вельмі часта гэта навучэнцы Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А. К. Глебава. Завітваюць і студэнты іншых навучальных устаноў, якія праходзілі ў нас практыку: з Інстытута сучасных ведаў, лінгвагуманітарнага каледжа, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. За два-тры месяцы практыкі некалькі студэнтаў заўсёды становяцца сябрамі музея. Мы паведамляем пра мерапрыемства, і яны прыходзяць да нас у госці.

**— Вы запрашаеце кожнага асабіста альбо дасылаеце інфармацыю на адрас установы?**

**А. Л.:** — Людзі пакідаюць нам свой электронны адрас і атрымліваюць паведамленні. Для сяброў музея гэта робіцца асабіста. Да таго ж старонка музея ёсць у сацыяльных сетках, і мы шчыльна працуем са сродкамі інфармацыі.

**— Сябры музея ўваходзяць у адмысловы VIP-спіс?**

**А. Л.:** — Так, безумоўна! Мы ім вельмі ўдзячныя і нават робім для іх ганаровыя дыпломы.

**— Ці тлумачыце будучым выступоўцам нейкія акалічнасці ў час падрыхтоўкі да мерапрыемства?**

**А. Л.:** — Абавязкова ідзе папярэдняя праца. Мы плануем, каб адкрыццё выстаўкі працягвалася не больш як 30 — 40 хвілін, каб потым можна было паглядзець экспанаты, кулуарна паразмаўляць. Таму мы вельмі карэктна (але канкрэтна!) абмяркоўваем час выступлення: «Вы ж разумееце: плануюцца чатыры выступоўцы, наведвальнікам цяжка будзе стаяць, таму працягласць выступлення — не больш за пяць хвілін». Для сур'ёзных паведамленняў ёсць іншыя мерапрыемствы: музейныя чытанні і канферэнцыі. Дарэчы, людзі заўсёды ідуць нам насустрач!

**В. П.:** — Так, для нас важна, каб адкрыццё выстаўкі было дынамічным, каб у наведвальнікаў захавалася цікавасць, засталіся час і жаданне самастойна пазнаёміцца з экспазіцыяй, з прадстаўленымі матэрыяламі.

**— Калі адкрываецца персанальная выстаўка, ці працуе аўтар мастацкіх работ над сцэнарыем?**

**А. Л.:** — Часцей за ўсё аўтары падказваюць нам людзей, якія маглі б выступіць на адкрыцці. Калі ж ёсць жаданне, можна прыняць удзел і ў планаванні мерапрыемства. Так, перад юбілейным вечарам Уладзіміра Скарынкіна яго жонка рыхтавала сцэнарый разам з намі. Але звычайна гэта клопат нашых супрацоўнікаў.

**— На творчых вечарах, якія адбываюцца ў бібліятэках, звычайна стаяць крэслы. У выставачнай зале музея іх няма — ці вызначае гэта ў нейкай ступені фармат мерапрыемстваў?**

**В. П.:** — Мне здаецца, найлепшая форма адкрыцця выстаўкі — гэта калі чалавек можа свабодна падысці да карціны, да экспаната і паглядзець на яго.

**А. Л.:** — На літаратурна-музычных вечарынах крэслы заўсёды ёсць, але на вернісажах, калі людзі стаяць, знаходзяцца на адным узроўні, знікае мяжа між залай і «прэзідыумам», што падаецца дастаткова дэмакратычным.

**— Як далучаеце да ўдзелу ў музейных падзеях музычныя і танцавальныя калектывы?**

**А. Л.:** — На шчасце, у нас многа сяброў музея. Праз іх і праз сваіх супрацоўнікаў мы знаходзім патрэбных выканаўцаў. Калі на адкрыцці выстаўкі выступае цікавы гурт, мы даём магчымасць калектыву правесці ў музеі свой канцэрт. Часцей за ўсё гэта адбываецца ўвечары ў чацвер. Маладому гурту вельмі складана знайсці пляцоўку ў Мінску, а мы можам з гэтым падтрымаць. Да таго ж у нас працуе музейны музычны клуб «Спроба актавы» — і яго ўдзельнікі таксама ладзяць невялікія канцэрты. А можа быць, нам дапамагае і аўра нашага музея, бо калі з кім-небудзь дамаўляешся, людзі вырашаюць, што Купалаваму дому абавязкова трэба дапамагчы!

**В. П.:** — Добра, калі на адкрыцці выстаўкі ёсць музычнае суправаджэнне. Наш музей у гэтым сэнсе вялікі эксперыментатар, бо тут выконваецца музыка ад класікі да рэгі — згадаем папулярны сярод моладзі гурт «Аддзіс-Абеба». Здаецца, ці магчымы яго канцэрт у Купалавым доме?! Але было так здорава, калі на канцэртную праграму прыйшла моладзь і ўбачыла, што ў музеі, акрамя экспазіцыі, ёсць выставачная зала, а на той час там экспанаваліся менавіта фотаздымкі з Кеніі С. Мілюхіна, і музыка выдатна адпавядала выстаўцы. Усё магчыма, галоўнае — творча думаць! У нас нават можна ладзіць рэпетыцыі, бо моладзі трэба недзе згуртавацца, прычым не на кватэры, а ў памяшканні з добрай акустыкай.

**— Сёння відавочная неабходнасць папулярызацыі беларускай культуры. Ці рэальна гэта вырашаць праз дзейнасць музея?**

**В. П.:** — Такая праблема паўстае вельмі востра, нават многія нашы супрацоўнікі на працы размаўляюць па-беларуску, а дома, у сям'і па-руску. Шкада, ды так нас выхоўвалі. Але хто, калі не мы, будзе працаваць над тым, каб народ прыйшоў да разумення, што ў нас прыгожая мова? Сёння ад моладзі мы чуем, што размаўляць па-беларуску модна: мы не такія, як усе! Здараецца, людзі прыходзяць выпадкова: ноч музеяў — завіталі, здзівіліся, ні слова не зразумелі, размаўляюць па-руску… Потым прыходзяць на канцэрт, потым — яшчэ раз і пачынаюць дапамагаць, становяцца нашымі валанцёрамі, бяруцца вучыць беларускую мову проста тут, на месцы! Былі ў нас валанцёры з Украіны і Расіі; ад нашай мовы зусім далёкія, але мы ім ставілі ў прыклад Уладзіміра Мулявіна. Я думаю, калі людзі неабыякавыя, то ў гэтай справы ёсць будучыня. Адназначна! Нам пашчасціла: цудоўны калектыў, самаадданыя людзі, якія працуюць у адным кірунку, — увечары, і ў выходныя дні. Я лічу, што калі ты вырашыў займацца нейкай справай, то павінен гэта рабіць на ўсе сто працэнтаў. Калі так не атрымліваецца, лепш сыдзі. Бо калі працуеш з людзьмі, калі гэта медыцына, адукацыя, культура — тры кіты, на якіх павінна трымацца здаровая нацыя, — то нельга рабіць напалову.

**— Але далёка не ўсе дзеячы культуры шукаюць сучасныя сродкі, каб зрабіць яе актуальнай для нашага часу. Наколькі важна ў сваёй прафесійнай ці творчай працы ўлічваць сучасныя рэаліі?**

**В. П.:** — Калі мы не будзем іх улічваць, то да нас ніхто не прыйдзе. Сёння мы праводзім экскурсіі інакш, чым калі самі вучыліся ў школах. Усё павінна быць больш свабодна, па-свойску: пытанні, адказы, інтэрактыўныя моманты. Бо дзеці цяпер гіперактыўныя, яны не маўчаць, як у савецкі час, яны хочуць выказваць свае думкі, прымаць удзел у тым, што адбываецца, — і гэта трэба ўлічваць! Мы выкарыстоўваем сучасныя тэхналогіі, але не адмовіліся ад таго, што было раней: паказваем фотаздымкі, рукапісы, арыгіналы. Калі ж у экспазіцыйных залах вісяць вялікія тач-экраны, дзеці разумеюць, што прадстаўленае ў музеі не адарвана ад іх жыцця, ад таго, што яны робяць штодня. Бо, вядома, сёння яны шмат сядзяць у камп'ютары... Мы не прапануем прыйсці ў музей і правесці за камп'ютарнымі гульнямі яшчэ гадзінку, але калі тут ёсць элементы, знаёмыя дзецям, гэта толькі прываблівае. Школьнікі прыходзяць на экскурсію, а потым прыцягваюць да нас маму, тату, бабулю: «Глядзі, які круты музей ёсць у Мінску!»

**— Ці часта супрацоўнікі Купалавага дома наведваюць з камандзіроўкамі музеі іншых краін?**

**В. П.:** — Мы плённа супрацоўнічаем з музеямі Расіі, Літвы, Латвіі, Славакіі, і, нешта падгледзеўшы там, можам выкарыстаць. Напрыклад, зараз кожны наведвальнік музея можа на ўваходзе атрымаць наклейку з выявай Янкі Купалы: яго партрэт можна замацаваць на руку, на сумку, часцей за ўсё на адзенне — там, дзе б'ецца сэрца. Школьнікам мы гаворым пры гэтым, што жадаем, каб яны пайшлі з музея з Купалам у сэрцы. Здаецца, так проста прыдумаць, але гэта зрабілі да нас. Мы былі ў мастацкім музеі ў Фінляндыі — там выкарыстоўваецца гэты прыём. І так здорава, калі на вуліцы цёпла, выходзіць група дзяцей, і ў кожнага на адзенні партрэт Янкі Купалы — як медалёк, як значок на сэрцы. Людзі аглядаюцца: «Адкуль гэта вы?» Дома дзеці абавязкова пакажуць бацькам наклейку і раскажуць пра экскурсію.

**— Ці могуць культурныя падзеі ў іншых установах мець такую ж папулярнасць, як у вашым музеі?**

**А. Л.:** — Так, галоўнае тут — прадуктыўная праца культурна-адукацыйнага аддзела. У штаце нашага музея — вельмі крэатыўныя, таленавітыя людзі, якія сур'ёзна рыхтуюць сцэнарны план кожнага мерапрыемства. Я раю сваім супрацоўнікам ў час працы над сцэнарыем заўсёды думаць пра тое, ці будзе ім самім цікава на такім мерапрыемстве. Музей — не толькі сховішча нашых калекцый, але і месца адпачынку, дзе можна правесці вольны час, атрымаць асалоду. Гэтыя кірункі працы вылучаюцца ў сучасным музеязнаўстве, і мы стараемся, каб усё, што ладзіцца, было цікава, каб да нас хацелася прыйсці зноў!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Дзверы ў незабыўны свет

**Першая персанальная выстаўка жывапісца, іканапісца і паэтэсы Аліны Савіцкай адбылася ў Лагойскім гісторыка-краязнаўчым музеі імя Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў пры падтрымцы лагойскага раённага літаб'яднання «Рунь» і з блаславення настаяцеля Свята-Мікалаеўскай царквы протаіерэя Уладзіміра Зямніцкага. У экспазіцыі былі прадстаўлены пейзажы, нацюрморты з кветкамі, а таксама праваслаўныя іконы, напісаныя алеем.**



*Ікона Божай Маці Збаўца.*

**— Аліна Уладзіміраўна, калі вы ўпершыню звярнуліся да іканапісу?**

— У 1999 годзе па блаславенні настаяцеля храма айца Уладзіміра я напісала для Свята-Мікалаеўскай царквы ікону «Сашэсце Хрыста ў пекла». Пасля пачалі з'яўляцца іншыя. Некаторыя з іх стварала і на замову.

**— Ці былі ў вашым жыцці знакавыя падзеі, звязаныя з іконамі?**

— Так. Упершыню ўбачыла абраз у старой суседкі. Было мне тады недзе каля шасці гадоў. Магчыма, гэта была Казанская ікона Божай Маці, якая мяне вельмі ўразіла. А праз сорак напісала сваю першую ікону.

**— Якім, на вашу думку, павінен быць праваслаўны абраз?**

— Аскетычным, сціплым, але ў той жа час — кранаць душу таго, хто моліцца.

**— Наколькі складаная праца іканапісца?**

— Гэта працяглы, карпатлівы працэс, які патрабуе надзвычайнай сканцэнтраванасці, дакладнасці. Працую, пакуль не адчую душой, што твор мяне «адпускае». Без веры і любові такая праца немагчымая. Бывае, што заканчваю адну работу і хочацца адпачыць. Але праходзіць пэўны час, калі я малюю кветкі ці займаюся шытвом, і зноў прыцягваюць іконы. Люблю працаваць, калі свеціць сонца і промні падаюць на абраз, быццам асвятляючы яго.

**— Што ў такой выяве галоўнае: тэхніка, матэрыял, выкананне ці нешта іншае?**

— У маім разуменні самае важнае — падабенства да арыгінала, як знешняе, так і ўнутранае, духоўнае.

**— Вы пішаце яшчэ і нацюрморты. Вашы палотны могуць доўга ўтрымліваць увагу. У чым сакрэт?**

— Сакрэт вельмі просты: у кожную работу я ўкладваю часцінку сваёй душы.

**Гутарыла Юлія САВІЦКАЯ**



*Абраз Казанскай іконы Божай Маці.*

**Даведка «ЛіМа»**

Аліна Савіцкая нарадзілася на Віцебшчыне ў сям'і настаўнікаў. Скончыла Віцебскае медыцынскае вучылішча, а ў 1982 г. — аддзяленне станковага жывапісу і графікі Завочнага народнага ўніверсітэта мастацтваў (г. Масква). Дыпламант рэспубліканскай выстаўкі народнай творчасці «Вечназялёнае дрэва рамёстваў» (1996), народны майстар Лагойскага дома рамёстваў. У 2012 г. работы мастачкі выстаўляліся ў сталічным Доме-музеі І з'езда РСДРП.

# Падарунак ад жывапісца

**Першая прыватная мастацкая галерэя «Плешчаніцы» адкрылася ў аднайменным гарадскім пасёлку на Лагойшчыне. Такі шчодры падарунак зрабіў землякам жывапісец, графік, сябар Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Шнарэвіч.**



*Наталля Сустава. Ілюстрацыя да казкі І. Афанасьева «Жар-птушка». Папера, акварэль.*



*Зінаіда Эрэнбург. «Кветкі палявыя». Палатно, алей.*

Апошнім часам у нашай краіне, як і ў сусветнай артпрасторы, набываюць вялікую папулярнасць нефармальныя віды экспазіцыйнай дзейнасці: пленэры, вулічныя выстаўкі ды акцыі, прыватныя галерэі ў невялікіх населеных пунктах. Гэта асабліва актуальна ў сувязі з актыўным развіццём айчыннага аграэкатурызму. Паспяхова працуюць арт-галерэі Ф. Янушкевіча ў Ракаве, А. Кузьміча ў вёсцы Махро Брэсцкай вобласці, А. Рашэтнікава ў вёсцы Плябань Мінскай вобласці, К. Качана ў г. Навагрудку.

Падчас будаўніцтва галерэі ў Плешчаніцах мастаку прыдаўся досвед працы дэкаратарам на студыі «Беларусьфільм». Атрымалася ўтульная экспазіцыйная прастора. Галерэя адкрылася выстаўкай творчага аб'яднання БСМ «Верасень», сябрам якога з моманту яго заснавання з'яўляецца У. Шнарэвіч. Дарэчы сёлета «Верасень» адзначае 25-годдзе.

У выстаўцы ўзялі ўдзел 14 мастакоў. Сярод іх — майстры пэндзля, вядомыя не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі: Уладзімір Пашчасцеў, Наталля Сустава, Ірына Лобан, Зінаіда Эрэнбург і г. д. У экспазіцыі, невялікай, але змястоўнай, прадстаўлена 32 творы: кніжныя ілюстрацыі, акварэлі, малюнкі, работы ў змяшанай тэхніцы, алейны жывапіс. У галерэі таксама плануецца ладзіць персанальныя і тэматычныя выстаўкі, экспазіцыі дзіцячай творчасці, у тым ліку сумесна з прафесійнымі мастакамі.

**Марына ЭРЭНБУРГ**

*Палітра*

# Глабальнае ды актуальнае

**Праект аршанскага мастака-графіка Паўла Сідаровіча «Bellum omnium contra omnes» («Вайна ўсіх супраць усіх») рэалізуецца ў сталічным Цэнтры сучасных мастацтваў.**

Вайна ўсіх супраць усіх — паняцце, уведзенае англійскім філосафам-матэрыялістам Томасам Гобсам, якое апісвае натуральны стан грамадства да ўтварэння дзяржавы: усе людзі роўныя, кожны кіруецца выключна ўласнымі патрэбамі ды інтарэсамі. Чалавек прагне ўлады і багацця, імкнецца атрымаць як мага больш выгод і ў той жа час пазбегнуць пакут, што вядзе да пастаянных канфліктаў.

Павел Сідаровіч, эканаміст па спецыяльнасці, скончыў Аршанскі механіка-тэхналагічны тэхнікум (цяпер Аршанскі дзяржаўны механіка-эканамічны каледж). Выяўленчым мастацтвам займаецца з 2004 г. Працуе ў жанрах графікі (у асноўным плакатнай) і трафарэтнага жывапісу, прычым, толькі ў двух колерах — белым і чорным.

У аснове экспазіцыі — тры кубічныя арт-аб'екты. У іх увасоблены тыпы канфліктаў, якія так ці інакш датычаць кожнага: паміж мужчынам і жанчынай, міжасобасны і канфлікт з самім сабою. Усяго ў праект увайшло больш як 30 работ, створаных за апошняе дзесяцігоддзе.

**Арына КРАЙКО**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2315.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 21.08.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3204.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686